**Навуковая грамадскасць Рэспублікі Беларусь 25 студзеня адзначае свае прафесіянальнае свята. Таму нам падаецца, што размова аб развіцці навукі ў вышэйшых навучальных установах, якая стала важкай часткай эканомікі нашай дзяржавы, якраз да падзеі, да месца.**

# «ІНТЭЛЕКТ ГРАМАДСТВА Ў НАВУКОВЫХ ІДЭЯХ...»

У АПОШНІЯ пяць гадоў на першы план забеспячэння народнай гаспадаркі паралельна з Нацыянальнай акадэміяй выходзіць універсітэцкая навука. У рэгіёнах рэспублікі вакол дзяржаўных універсітэтаў складваецца спецыфічнае навукова-эканамічнае поле развіцця народнагаспадарчых комплексаў, заснаванае на сучасных дасягненнях тэхнічнай думкі і глыбокім асэнсаванні нацыянальнай культуры.

Сучасная навука ВНУ мае тры важнейшыя сферы грамадзянскага дзеяння. «У сценах вышэйшай школы выхоўваецца наша будучыня», — сказаў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнка на сустрэчы з рэктарамі ВНУ 15 студзеня гэтага года. У ВНУ ідзе працэс генерацыі кадраў вышэйшай кваліфікацыі — кандыдатаў і дактароў навук. Навука ў значнай ступені забяспечвае развіццё народнай гаспадаркі нашай дзяржавы.

Гэтыя мэты дыялектычна ўзаемазвязаныя. У 23 вышэйшых навучальных установах Міністэрства адукацыі навучаецца больш як 123 тысячы студэнтаў па 208 спецыяльнасцях, у тым ліку 460 студэнтаў з рэспублік СНД і 630 — з іншых дзяржаў. У вышэйшай школе працуюць 15,5 тысячы чалавек прафесарска-выкладчыцкага саставу, навуковых і інжынерна-тэхнічных работнікаў, дактарантаў, аспірантаў, магістраў. Залаты фонд айчыннай вышэйшай школы — 700 дактароў і звыш 6000 кандыдатаў навук.

Распараджэннем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у 1995 годзе зацверджаны Спецыяльны фонд прэзідэнта па сацыяльнай падтрымцы таленавітых навучэнцаў і студэнтаў; 78 студэнтам і 98 аспірантам па выніках адкрытага конкурсу ў 1997 годзе прысуджана стыпендыя Урада Рэспублікі Беларусь, 64 з іх навучаюцца ў ВНУ і навуковых установах Міністэрства адукацыі, у тым ліку 16 — у БДУ.

Каштоўнасць навуковай дзейнасці сярод моладзі расце. Калі ў 1992 г. у сістэме Міністэрства адукацыі было прынята ў аспірантуру 459 чалавек, то ў 1997 годзе — 912. У 1998 годзе плануецца прыняць у аспірантуру 1129 чалавек.

Для пераходу да «штучнай вытворчасці» навуковых кадраў у якасці эксперымента міністэрства пачало сёлета конкурснае фінансаванне дысертацыйных даследаванняў з мэтай матэрыяльнай падтрымкі аспірантаў і іх навуковых кіраўнікоў. Для вырашэння гэтай праблемы ў гэтым годзе выдзелена больш за 2 млрд. рублёў.

Штогод вышэйшыя навучальныя ўстановы папаўняюцца 35 дактарамі і 130 кандыдатамі навук, што недастаткова. Паводле папярэдніх падлікаў, штогадовы кадравы навуковы прырост павінен складаць не менш як 100 дактароў і каля 500 кандыдатаў навук, толькі тады мы адновім навуковы патэнцыял ВНУ і ў поўнай меры забяспечым рэспубліку навуковай прадукцыяй.

У ВНУ і навуковых установах склаліся і паспяхова развіваюцца буйныя навуковыя школы ў галіне педагогікі, гісторыі, літаратуры, ядзернай фізікі, фізікі цвёрдага цела, хіміі, мікраэлектронікі, машынабудавання, энергетыкі, металургіі, будаўніцтва, эканомікі і інш. Навуковая школа, якой кіруе акадэмік А. Дастанка, мэтанакіравана і плённа працуе ў галіне сучасных электронных тэхналогій. У рамках школы дзейнічае навукова-вытворчая фірма «Ізавак», якая асвоіла серыйны выпуск прыбораў і пастаўляе прадукцыю ў краіны далёкага замежжа, напрыклад, у Паўднёвую Карэю.

Поспех на міжнародным рынку спадарожнічаў Беларускаму дзяржаўнаму універсітэту інфарматыкі і радыёэлектронікі. Пачынаючы з 1995 г. універсітэтам былі заключаны і выконваюцца 14 кантрактаў з фірмамі Кітая і Індыі на суму каля 6 млн. долараў ЗША, а з Украінай і Расіяй — на пастаўку СВЧ-электронікі і радыёлакацыі на суму больш як 3 млн. долараў ЗША.

Цяпер ВНУ маюць дагаворы аб навукова-тэхнічным супрацоўніцтве з дзесяткамі буйнейшых універсітэтаў і фірмаў Еўропы і Азіі, прымаюць удзел у выкананні больш чым 50 праектаў міжнародных фондаў і праграм. Штогод вышэйшыя навучальныя ўстановы выконваюць каля 20 кантрактаў з замежнымі фірмамі на распрацоўку і пастаўку навукова-тэхнічнай прадукцыі, навукаёмістага абсталявання і прыбораў.

Навука ВНУ ва ўсім свеце традыцыйна займае вядучыя пазіцыі і з'яўляецца магутным паскаральнікам грамадскага развіцця і пераўтварэння эканомікі. Можна сказаць, што трывалая сувязь ВНУ з вытворчасцю вызначае значную іх ролю і ў структуры народнай гаспадаркі Беларусі.

Маштабы работ па дзярждагаворнай тэматыцы растуць. Летась па заказах прадпрыемстваў, арганізацый, міністэрстваў і ведамстваў ВНУ і НДІ Міністэрства адукацыі выканана работы на суму 260 млрд. рублёў. Многія распрацоўкі ўкаранёны ў вытворчасць.

Найбольш яркі прыклад — супрацоўніцтва Беларускага дзяржаўнага універсітэта транспарту з Беларускай чыгункай. Летась універсітэт выканаў заказных даследаванняў на суму каля 5 млрд. рублёў. У 1997 годзе ва універсітэце створана галіновая навукова-даследчая лабараторыя, пастаяннае фінансаванне якой ажыццяўляе Упраўленне чыгункі. Навукова-даследчым інстытутам фізіка-хімічных праблем Белдзяржуніверсітэта ў рамках дзяржаўнай навукова-тэхнічнай праграмы «Лекавыя прэпараты» (кіраўнік акадэмік Ф. Капуцкі) распрацаваны і ўкаранёны на Барысаўскім заводзе унікальныя медпрэпараты. НДІ ядзерных праблем Белдзяржуніверсітэта створана унікальная апаратура, якая не мае аналагаў у айчыннай і замежнай практыцы, для дазіметрычнага і радыеметрычнага кантролю і выкарыстоўваецца ў розных сферах вытворчасці...

Трэба адзначыць, аднак, і тое, што кіраўнікі прамысловых прадпрыемстваў часам аддаюць перавагу замежным распрацоўкам, хаця іх якасць роўная айчынным. Політэхнічнай акадэміяй былі распрацаваны зубчастыя рамяні, якія ўкаранёны на Брэсцкім электралямпавым заводзе, Светлагорскім ВА «Хімвалакно» і іншых прадпрыемствах, і былі прапанаваны Беларускаму металургічнаму заводу, які закупляе аналагічныя рамяні за валюту. Неаднаразовыя перагаворы па ўкараненне іх на БМЗ не далі вынікаў. У Беларускім універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі распрацавана ўсёхвалевая прыёмная тэлевізійная актыўная антэна «Альфа». Гэта перспектыўная распрацоўка. Аднак спробы яе ўкаранення на прадпрыемствах рэспублікі («Лес», г. Барань, «Спадарожнік» і «Электрамодуль», г. Маладзечна, «Радыёхваля», г. Гродна і інш.) пакуль безвыніковыя.

На нашу думку, паспяховае развіццё рэгіёнаў у значнай меры залежыць ад развіцця інавацыйнай дзейнасці і правільна выбраных прыярытэтаў. У кожным рэгіёне з улікам эканамічных, рэсурсных, экалагічных і культурных асаблівасцяў ёсць найбольш развітыя канкурэнтаздольныя галіны. Менавіта ў гэтыя галіны (тэхналогіі, прадпрыемствы), канкурэнтаздольнасць якіх значна вышэйшая за іншыя, трэба ўкладваць фінансавыя і матэрыяльныя рэсурсы з мэтай атрымання больш хуткай аддачы, не распыляючы сродкаў на галіны (тэхналогіі, прадпрыемствы), якія значна адстаюць ад сусветнага ўзроўню.

Міністэрства прапануе аблвыканкамам пачаць сумесную работу па фарміраванню навукова-тэхнічных праграм сацыяльнага, эканамічнага і тэхналагічнага развіцця рэгіёнаў, прадугледжваючы іх фінансаванне як з рэспубліканскага, так і з мясцовых бюджэтаў. Па ініцыятыве вучоных Віцебскага дзяржаўнага універсітэта ўжо распрацаваны праект рэгіянальнай праграмы «Беларускае Паазер'е: прыродныя рэсурсы, матэрыяльная і духоўная культура».

На наш погляд, правільную палітыку адносна развіцця інавацыйнай дзейнасці і выдзялення прыярытэтаў праводзяць улады ў Магілёўскім рэгіёне. Цяпер Магілёўскім машынабудаўнічым інстытутам створаны тэхнапарк і бізнес-інкубатар, мэта якіх — прасоўванне на рынак распрацовак вучоных Магілёва і Магілёўскай вобласці і дапамога інавацыйным структурам.

Асаблівае месца ў сістэме займае нядаўна створаны пастановай урада Навукова-даследчы цэнтр валаконна-аптычнай тэхнікі, асноўная задача якога — распрацоўка і стварэнне высокаканкурэнтнага дыягнастычнага абсталявання медыцынскага і тэхнічнага прызначэння, асобныя ўзоры якога ўжо выкарыстоўваюцца ў медыцынскіх установах Магілёўскай вобласці і на мытні.

І ўсё ж навука ВНУ ў даўгу перад грамадствам: неабходна надаць паскаранае развіццё грамадска-гуманітарных навук. Вучоныя насцярожана і марудліва пачынаюць фундаментальныя распрацоўкі актуалій нацыянальнай гісторыі, літаратурнай нормы беларускай мовы, ідэалогіі беларускай дзяржаўнасці, філасофіі дэмакратычнага грамадства, праблем грамадзянскага выхавання і г. д.

Аднак беларускія вучоныя ўсведамляюць адказнасць за лёс нашай Айчыны і будуць імкнуцца да інтэлектуальнага забеспячэння грамадства, умацавання культурна-эканамічнай асновы дзяржавы ў працэсе дасягнення высокага ўзроўню дабрабыту беларускага народа.

**Алег СЛУКА,**
**намеснік міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь,**
**Алег РЭУТ,**
**начальнік упраўлення падрыхтоўкі навуковых кадраў і каардынацыі навуковых даследаванняў Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.**

## Заканадаўцы абяцалі прадпрымальнікам дапамагчы. Чым могуць

**У цэнтры ўвагі ўдзельнікаў нарады Камісіі па бюджэту і фінансах Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, што адбылася днямі, была праблема складаных адносінаў паміж прадпрымальнікамі краіны і органамі падатковага кантролю.**

Як вядома, 120 тысяч беларускіх прадпрымальнікаў з-за шэрагу заканадаўчых актаў, якія не стасуюцца паміж сабой, сёння вымушаны нервавацца. Указ прэзідэнта № 70, які ўвёў фіксаваную стаўку падаткаў на прыбытак, па прызнанню прадпрымальнікаў, дазваляе працаваць сумленна. Аднак потым адпаведнымі органамі прынята рашэнне, згодна з якім армія прадпрымальнікаў вымушана плаціць яшчэ і падатак з сукупнага гадавога даходу. Ён складае адпаведна некалькі соцень да некалькіх дзесяткаў тысяч долараў. Выплаціць такія сумы, па меркаванню прадпрымальнікаў, проста немагчыма. Калі гаварыць пра «чаўнакоў», то яны або папоўняць рады беспрацоўных, або стануць займацца ценявым бізнесам.

Адбылася працяглая дыскусія, у якой прынялі ўдзел прадстаўнікі Міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцый, а таксама афіцыйныя асобы Дзяржаўнага падатковага камітэта. Старшыня парламенцкай камісіі па бюджэту Аляксандр Зінчанка параіў прадпрымальнікам звяртацца ў суд. Яны ж пакуль вырашылі чакаць адказаў Вышэйшага гаспадарчага суда, Дзяржаўнага падатковага камітэта, Савета Міністраў, куды звярнуліся з пісьмамі. Магчыма, канфлікт наблізіць да завяршэння пісьмо парламенцкай камісіі ў Савет Міністраў аб разглядзе гэтай справы. Прадпрымальнікам жа, сярод якіх не толькі «чаўнакі» (у краіне афіцыйна зарэгістравана існаванне 35 формаў прадпрымальніцкай дзейнасці), хацелася б, каб гордзіеў вузел рассеклі на працягу тыдня.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## Іван ШАКОЛА:
## «Сельская гаспадарка чакае закона аб адаптацыі да рыначных умоў»

Маючы на ўвазе выключную ролю сельскай гаспадаркі ў эканоміцы краіны, можна толькі падзівіцца, што многія заканадаўчыя аграрныя праекты гадамі вандруюць з аднаго кабінета ў другі. Такі шматпакутны лёс і ў праекта закона аб адаптацыі сельскай гаспадаркі да рыначных умоў. Гісторыя яго «блукання па пакутах» налічвае ўжо, мусіць, ці не 3 гады. Праўда, асобныя палажэнні якраз гэтага закона пачалі рэалізоўвацца на практыцы асобнымі гаспадаркамі краіны яшчэ ўчора і пазаўчора. Смеласць і рашучасць, патрабаванні часу, жаданне не пазбавіць людзей болей-меней прыстойнага заробку падштурхнулі цэлую кагорту калгасных старшынь да змены формы ўласнасці, да ўвядзення новых эканамічных адносінаў у іх гаспадарках. Але ж фактычна такія гаспадаркі, і пра гэта днямі гаварылі ўдзельнікі пасяджэння Камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу па аграрных пытаннях, знаходзяцца па-за межамі закона. І справа нават не толькі ў гэтых флагманах і маяках, называйце іх як хочаце. Справа хутчэй у тым, што астатнія сотні гаспадарак з'яўляюцца маўклівымі сузіральнікамі.

Міністр сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання Іван Шакола, відавочна, маючы на ўвазе перш-наперш згаданы законапраект аб адаптацыі, заўважыў наступнае. Калі б законапраекты, адпраўленыя на дапрацоўку, былі прыняты нашмат раней, мы не тапталіся б на месцы і не наламалі б дроў. Між іншым, трэба згадаць і яшчэ адзін не меней важкі законапраект — аб дзяржаўным рэгуляванні прадпрыемстваў АПК. І. Шакола нагадаў дэпутатам-аграрнікам, што сёння няма такой дзяржавы, дзе сельская гаспадарка дзяржавай не падтрымлівалася б. У нашай жа краіне гэтая падтрымка носіць бессістэмны, эпізадычны характар.

Лічбы сведчаць наступнае. У прыватнасці, сёлетняя сяўба патрабуе да 40 трыльёнаў рублёў. Наўрад ці болей як на 65—70 працэнтаў будуць пакрыты затраты. Пра гэта, безумоўна, міністр не мог не нагадаць, калі да сяўбы ў паўднёвых раёнах краіны застаецца прыблізна 1,5 месяца. А сёння ж яшчэ кіраўніцтва АПК краіны — перад мноствам нявырашаных пытанняў. Сёння яшчэ працягваецца бескарыснае абіванне парогаў банкаўскіх устаноў, на спрыянне якіх да АПК давядзіцца разлічваць усё меней. Усё, канешне ж, складвалася б інакш, калі б у бюджэт заканадаўча закладвалася працэнтная стаўка па падтрымцы сельскагаспадарчай вытворчасці. Гэта, безумоўна, не азначае, што аграрнікі не павінны шукаць унутраныя рэзервы. Якраз спробы эканамічнага рэфарміравання і скіраваны да такіх пошукаў. І ўсё ж... І. Шакола падкрэсліў, што на сённяшні дзень ні ў кога, акрамя Мінсельгасхарчу, няма абавязкаў перад вёскай, перад АПК. Выразна бачна гэта і на прыкладзе цэнаўпарадкавання. Усё цяжэй дзяржаве становіцца, прыкладам, забраць на вёсцы свініну. Прадпрымальнік выкладвае ўдвая болей, чым плаціць дзяржава. А прыедзе калгаснік на гарадскі рынак, то і сам бачыць, што зробленае, выгадаванае ім прадаецца па цане і ў тры разы болей.

Такім чынам, міністр сельскай гаспадаркі і харчавання, абмалёўваючы няпростую сітуацыю ў айчынным АПК, звярнуўся да дэпутатаў з просьбай як найхутчэйшага ўдасканалення заканадаўчай базы.

З выступлення старшыні дэпутацкай камісіі і са слоў іншых удзельнікаў дыскусіі прагучалі і іншыя праблемы. Яны досыць шырока адлюстраваны ў цэлым шэрагу існуючых аграрных законапраектаў. Асобнага вырашэння патрабуюць пытанні закупак. Аб банкруцтве сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, аб абароне сельскагаспадарчых культур, аб кааперацыі (патрэбны менавіта асобны закон аб кааперацыі ў АПК, дзе павінна быць выкладзена фактычна канцэпцыя сельскагаспадарчай дзейнасці), аб экалагічным страхаванні, пчалярстве і г. д.

Але наўрад ці нават сёлета хаця б палова гэтых законапраектаў стане заканадаўчымі актамі. Таму, магчыма, аператыўнага ўмяшання ў той альбо іншай форме патрабуюць нават асобныя вострыя пытанні. На адным з іх акцэнтаваў увагу і Старшыня Палаты прадстаўнікоў Анатоль Малафееў. У сённяшняй складанай сітуацыі, асабліва для тэхнічнага парку АПК, фарміруюцца ў час сяўбы, жніва ці нарыхтоўкі кармоў розныя сумесныя, часцей за ўсё — часовыя падраздзяленні для вырашэння найбольш актуальных задач. Дык вось, падаткаабкладанне для іх мае тыя ж памеры, што і для стала дзеючых сельскагаспадарчых прадпрыемстваў. Наўрад ці гэта на карысць справе.

... Па завяршэнні пасяджэння камісіі міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Іван Шакола адказаў на некалькі пытанняў карэспандэнта «Звязды».

**— Іван Пятровіч, і ўсё ж такі, на ваш асабісты погляд, што сталася перашкодай такога «доўгаграння» ў выпадку з прыняццем закона аб адаптацыі сельскай гаспадаркі да рыначных умоў?**

— Мне даволі складана, прызнацца, адказаць на гэтае пытанне. Магчыма, існуе павярхоўнае ці недастатковае разуменне праблемы ў цэлым. Другіх тлумачэнняў не знаходжу.

**— Сённяшняе пасяджэнне аграрнай дэпутацкай камісіі нагадала, што, у прынцыпе, законапраектаў, якія маюць самае непасрэднае дачыненне да клопатаў вясковых працаўнікоў, а таксама да сферы сельскагаспадарчай пераапрацоўкі, існуе даволі шмат. Усе яны, канешне ж, не будуць разгледжаны і сёлета. Што з мяркуемых заканадаўчых актаў павінна быць разгледжана ў першым эшалоне?**

— Безумоўна, першачарговага разгляду і зацвярджэння патрабуе праект закона аб адаптацыі. Рэформы, гэта відавочна, даўно наспелі. Яны і ідуць фактычна. Але няма рамачных правілаў гульні. У людзей ёсць жаданне, але часам яны не ведаюць, што рабіць, не бачаць перспектыў гаспадарання. Погляд на заўтрашні дзень, яго праектаванне і прагназіраванне павінны адбывацца з улікам існуючых заканадаўчых нормаў... Хаця ёсць і іншыя фактары — напрыклад, цэнаўпарадкаванне. І тым не меней мы павінны псіхалагічна настройваць людзей, што так далей жыць, як сёння, як учора, нельга. І змены, канешне ж, накіроўваюцца заканадаўчым падштурхоўваннем. Таму яшчэ раз хацеў бы выказаць сваю пазіцыю — сельская гаспадарка, увесь АПК чакаюць прыняцця закона аб адаптацыі да рыначных умоў.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

**МЕСЯЦ** | **СЁННЯ** | **ІМЯНІНЫ**

**Апошняя квадра 20 студзеня з 5.44—26-ыя месяцовыя суткі. Месяц — у сузор'і Стральца**

**Пр. Феадосія, Міхаіла К. Францішка, Салезія, Феліцыі**

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца пераменная воблачнасць, на паўночным захадзе невялікі снег. Тэмпература паветра ў Гомелі — 2–4, Брэсце, Мінску, Магілёве — 1–3, Гродне — 0–2, Віцебску — каля нуля.

У наступныя двое сутак: 25-га і ўдзень 26-га ў паўночных раёнах невялікі снег. Тэмпература 25-га ўначы — 5—10, удзень — 2—7, 26-га ўначы — 8—13, месцамі да 16—18, удзень — 2—7 градусаў ніжэй нуля.

# ЯНЫ — ШЧАСЛІВЫЯ

## Менавіта такое ўражанне склалася пасля сустрэчы з выкладчыкамі і навучэнцамі ліцэя БДУ

***Паважаная рэдакцыя, даўно чытаю і выпісваю «Звязду». Яна для мяне — і дарадца, і памочнік, і асветнік. Ніколі да вас раней не звярталася. Не было нагоды. Але ў мяне дачка вучыцца ў дзевятым класе. Выдатніца. Праўда, адчуваю, што школьных ведаў ёй мала. А нядаўна прыйшла і сказала, што хоча з сяброўкай паступаць у ліцэй БДУ. І я чула пра гэту навучальную ўстанову. Здаецца, яна карыстаецца вялікім аўтарытэтам. Магчыма, я памыляюся, але нядаўна ў «Радыёфакце» прагучала, што змяняюцца ўмовы паступлення ў гэты ліцэй. Ці так гэта? І наогул, хацелася б больш падрабязна прачытаць пра яго на старонках маёй адзінай любімай газеты. Мяркую, гэта будзе цікава і для тых бацькоў, чые дзеці імкнуцца набыць потым вышэйшую адукацыю. Падкажыце адрас ліцэя.***

Бярэзінскі раён. **З павагай Алена ЯЦЭВІЧ.**

Як сведчыць пісьмо нашай чытачкі, ліцэй БДУ, сапраўды, адна з самых прэстыжных навучальных устаноў краіны. Ліцэй імкнецца сабраць пад сваім дахам самых разумных і таленавітых падлеткаў з усёй рэспублікі. Зразумела, што паступаць сюды складана: даходзіць да 15 чалавек на месца. Нездарма кажуць: «Паступіць у ліцэй цяжка, вучыцца вельмі цікава, але не лягчэй, чым паступіць». Затое калі навучэнец атрымаў гордае імя «ліцэіст», то гэта практычна шлях ва універсітэт. Тут працуюць два аддзяленні: гуманітарнае і прыродазнаўчае. Калі гаварыць аб групах больш вузкай спецыялізацыі, то гэта — гісторыя, матэматыка, фізіка, хімія, філалогія...

Безумоўна, Белдзяржуніверсітэт зацікаўлены ў падрыхтоўцы добрых кадраў, таму і пасылае сюды сваіх лепшых выкладчыкаў. Вось і атрымліваецца, што ў ліцэі знаходзяць паразуменне тыя, хто хоча, набыўшы выдатныя веды, стаць высакакласным спецыялістам, і тыя, хто рыхтуе прафесіяналаў. Вынік гэтага творчага супрацоўніцтва вельмі высокі — 97-98 працэнтаў выпускнікоў ліцэя паступаюць у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Інакш і быць не можа. Творчы калектыў выкладчыкаў эксперыментуе, і, як бачна, вынікова.

Дарэчы, тут не існуе, што характэрна для навучальных устаноў новага тыпу, праблемы перагрузкі дзяцей. Якім чынам гэта дасягаецца? Галоўнае, што тут вырашылі праблему, звычайную для школ, калі ў канцы кожнай чвэрці вучню неабходна атрымаць выніковую адзнаку па 15-16 прадметах. Ужо пяты год тут працуюць так: вучацца і адпачываюць па чвэрцях, а вось адзнакі па непрафілюючых прадметах выстаўляюць па трыместрах, па двум-тром прафілюючым дысцыплінам вынікі падводзяцца за паўгода (экзамены). Таксама за паўгода выстаўляюцца адзнакі па прадметах, якія чытаюцца адзін раз на тыдзень.

А яшчэ ў ліцэістаў ёсць магчымасць паказаць сябе на штогадовай ліцэйскай навуковай канферэнцыі ці, скажам, напісаць навуковую работу для свайго сапраўднага часопіса «Веснік ліцэя». Гонар ліцэя — перамогі на алімпіядах. Ліцэісты маюць 130 дыпломаў пераможцаў рэспубліканскіх прадметных алімпіяд і 20 медалёў міжнародных алімпіяд. Пра ліцэй БДУ ведаюць у Канадзе, Англіі, Балгарыі, Польшчы, Швецыі, Нарвегіі, Аргенціне, Аўстраліі, дзе навучэнцы дастойна прадстаўлялі і свой ліцэй, і сваю краіну.

Такое ўяўленне, што перадыху для дзяцей амаль няма. Ці не так? Але ў ліцэістаў ёсць час і для творчасці. Тут пастаянна ладзяцца «капуснікі», КВЗ, розныя вечары, а таксама спартыўныя турніры, нават і з выкладчыкамі. Адным словам, у ліцэі створана спрыяльная абстаноўка, каб кожны ліцэіст раскрыўся, што, дарэчы, яны і робяць: адны прысвячаюць сябе літаратурнай творчасці, другія — навуцы, трэція — музыцы, чацвёртыя — жывапісу, а пятыя — вельмі нават проста могуць сапернічаць з прафесіянальнымі спартсменамі.

У ліцэі БДУ, які знаходзіцца па вуліцы Маякоўскага, у зусім непрэзентабельным будынку, удалося стварыць добрую ауру, у аснове якой — культ ведаў, узаемапавага і супрацоўніцтва. Менавіта дзякуючы гэтаму, на мой погляд, ліцэісты-«карапузікі» (так называюць тых, хто толькі паступіў у ліцэй) за два гады вучобы становяцца цалкам сфарміраванымі асобамі, якія гатовы да любых жыццёвых іспытаў. Пагадзіцеся, гэта так важна ў наш час. Канешне, за гэтым стаіць велізарная работа педагогаў, іх пастаянны пошук, а таксама прага дзяцей да ведаў. Адчуваецца, што ўсе яны шчаслівыя: і выкладчыкі, і вучні. Да такой высновы прыйшоў я, калі сустрэўся з дырэктарам ліцэя БДУ, кандыдатам фізіка-матэматычных навук, дацэнтам Генадзем Пальчыкам і пазнаёміўся з укладам жыцця вядомай у Беларусі навучальнай установы новага тыпу. Сам жа Генадзь Уладзіміравіч — выпускнік БДУ, стаяў ля вытокаў стварэння ліцэя, і да фанатызму перакананы ў яго прэстыжнасці, высокім рэйтынгу выкладчыцкага калектыву і вельмі верыць у шчаслівую зорку сваіх ліцэістаў.

Не мог я не выканаць і просьбу чытачкі «Звязды», таму папрасіў Генадзя Уладзіміравіча патлумачыць, якія змяненні ў жыцці ліцэя адбыліся апошнім часам, калі ліцэй змяніў свой статус і стаў структурным падраздзяленнем Белдзяржуніверсітэта. Ён паведаміў, што змяненні датычацца толькі тэрмінаў здачы ўступных экзаменаў у ліцэй. Калі ў мінулыя гады гэта адбывалася ў чэрвені, пасля выпускных экзаменаў за базавую школу, то цяпер яны будуць праводзіцца ў два этапы. На першым, у маі, дзевяцікласнікі будуць здаваць два пісьмовыя экзамены. Тыя, хто атрымае станоўчыя адзнакі, дапускаюцца да здачы вуснага экзамена па прафілюючаму прадмету, які адбудзецца ўжо ў чэрвені, пасля школьных экзаменаў. Падобны эксперымент, лічаць спецыялісты ліцэя, аблегчыць работу школьнікаў і дазволіць эфектыўна размеркаваць сілы.

Трэба адзначыць, што вось ужо некалькі гадоў у ліцэі працуюць курсы падрыхтоўкі да паступлення ў гэтую прэстыжную навучальную ўстанову. Ужо цяпер больш за 500 вучняў мінскіх школ у вячэрні час тут рыхтуюцца па ўсіх асноўных прадметах школьнага цыкла: матэматыцы, фізіцы, хіміі, гісторыі, біялогіі, англійскай мове, беларускай і рускай мове і літаратуры. Маецца ў ліцэі таксама шмат напрацовак па матэматыцы, хіміі, фізіцы і іншых прадметах, дзе прыводзяцца прыклады з мінулых уступных экзаменаў, робіцца іх разбор. У «вячэрнім ліцэі» працуюць таксама выкладчыкі ліцэя і Белдзяржуніверсітэта, якія маюць вялікі вопыт падрыхтоўкі навучэнцаў да ўступных экзаменаў рознага ўзроўню.

І яшчэ адно новаўвядзенне ліцэя, якім, мяркую, зацікавяцца бацькі выпускнікоў сярэдніх школ. Як вядома, перад многімі з іх паўстае праблема атрымання іх дзецьмі якасных ведаў, іх сістэматызацыі і мэтанакіраванай падрыхтоўкі да паступлення ў ВНУ. Не кожная сям'я ў цяперашніх умовах можа дазволіць сабе запрасіць рэпетытара. Гэта справа надта дарагая. Праўда, ёсць іншы варыянт: падрыхтоўчыя курсы пры ВНУ і тэхнікумах. Але заняткі там праводзяцца, як правіла, у групах, дзе займаюцца 40—60 чалавек, што, пагадзіцеся, зніжае эфектыўнасць вучобы. Ліцэй, таксама за грошы, але ў 10—20 разоў меншыя, чым у рэпетытараў, мае магчымасць арганізаваць групы, у якіх будуць займацца 8—12, 15—20 чалавек. Плануецца, што такія падрыхтоўчыя курсы пачнуцца 2 лютага і завершацца 30 красавіка. Пачатак заняткаў а 16 гадзіне. Выпускнікі сярэдніх школ змогуць паглыбіць свае веды ў матэматыцы, фізіцы, хіміі, біялогіі, гісторыі, геаграфіі, філалогіі, замежных мовах, па прадмету «Чалавек і грамадства».

Улічваючы напрацоўкі выкладчыкаў ліцэя, веданне імі праблем, з якімі сутыкаюцца выпускнікі на стыку сярэдняй і вышэйшай школ, можна меркаваць, што падрыхтоўчыя курсы ў ліцэі БДУ прынясуць задавальненне будучым абітурыентам і радасць паступлення ў ВНУ. Паведамляем адрас ліцэя: г. Мінск, вул. Маякоўскага, 96, тэл. 221-04-10, 221-06-01.

**Уладзімір АЛЯХНОВІЧ.**

# «МНЕ ЕСТЬ ЧТО СПЕТЬ, ПРЕДСТАВ ПЕРЕД ВСЕВЫШНИМ...»

## 25 студзеня Уладзіміру Высоцкаму споўнілася б 60

**Сваімі ўспамінамі пра Уладзіміра Сямёнавіча, свайго блізкага сябра, з нашым карэспандэнтам падзяліўся вядомы маскоўскі скульптар Зураб ЦЭРЭТЭЛІ.**



— Мне здаецца, што Валодзя быў шчаслівым чалавекам, бо меў шмат сапраўдных сяброў, якія яго вельмі любілі. І гэтыя любоў, павага, былі ўзаемнымі. Я пазнаёміўся з ім у пачатку ягонай творчай кар'еры, у 1963 годзе. Мы часта сустракаліся, абмяркоўвалі нейкія праблемы, ён заходзіў да мяне ў майстэрню, затым мы ехалі да нашых сяброў, дзе ён спяваў пад гітару. Адным словам, у гэтым плане ў яго быў поўны парадак.

Што датычыць яго асабістага жыцця, то, вядома, не мне меркаваць. І ніхто не можа быць тут суддзёй. Вы ведаеце, я веру ў розныя прыметы. Можа, гэта і несур'ёзна, але мне прыгадваецца адзін выпадак. Гэта было ў часы, калі Высоцкі толькі што пазнаёміўся з Марынай Уладзі. Я запрасіў іх да сябе дамоў, у Тбілісі. Высоцкага вельмі любілі ў гэтым горадзе, і калі даведаліся, што Уладзімір Сямёнавіч прыязджае, то гэта было сапраўднае народнае свята і гулянне. Усё адбывалася ў маім доме: анекдоты, смех, песні і — вялікі дубовы стол, застаўлены самымі разнастайнымі стравамі і віном. Мы доўга сядзелі за гэтым сталом, і вось у адзін з момантаў Марына стукнула па ім рукой, і ён, гэты вялізны дубовы стол, рухнуў — відаць, былі дрэнна прымацаваныя ножкі. Але не ў гэтым справа. Ніхто не звярнуў на гэта ўвагі: проста пасмяяліся. А ў мяне штосьці закралася ў душу: я разумеў, што гэта дрэнная прымета.

**— А які ён наогул быў чалавек?**

— Яму былі ўласцівыя ўсе добрыя якасці. Вы ведаеце «Аповесць пра сапраўднага чалавека»? Дык вось ён ім сапраўды быў: сумленным і чыстым, з моцным характарам, сапраўдны прафесіянал. Я бачыў яго ў апошнім «Гамлеце». Адкрыцца, вылажыцца так, як гэта зрабіў ён, цяжка хворы, можа толькі чалавек фантастычна моцны.

**— Скажыце, калі б Высоцкі жыў зараз — кім бы ён быў сёння: міністрам, а можа палітыкам?**

— Думаю, без сцэны ён бы не жыў. У яго на твары было напісана: я — Мастак. А такія людзі не мяняюцца. Так што яго палёт сапраўды аказаўся перарваным — ён мог бы працягвацца доўга. Але Высоцкі жыве і будзе жыць у сваёй творчасці вечна.

**Гутарыла Вольга РАМАНЮК.**

*И снизу лед, и сверху. Маюсь между.*
*Пробить ли верх иль пробуравить низ?*
*Конечно, всплыть и не терять надежду,*
*А там — за дело, в ожиданьи виз.*

*Лед надо мною, надломись и тресни!*
*Я весь в поту, как пахарь от сохи.*
*Вернусь к тебе, как корабли из песни,*
*Все помня, даже старые стихи.*

*Мне меньше полувека — сорок с лишним,*
*Я жив, двенадцать лет тобой и господом храним.*
*Мне есть что спеть, представ перед всевышним,*
*Мне есть чем оправдаться перед ним.*

*1980*

НАПЯРЭДАДНІ ПАДЗЕІ

## Уладзімір МАКЕЙЧЫК:

# «ГАТОЎНАСЦЬ НУМАР АДЗІН!»

## Міністр спорту і турызму Рэспублікі Беларусь Уладзімір Макейчык адказвае на пытанні журналіста Анатоля Мяснікова

**— Уладзімір Іосіфавіч! Сусветнае спартыўнае свята — зімовыя Алімпійскія гульні — з кожным днём становяцца бліжэй і бліжэй. Вы хвалюецеся?**

— А як вы думаеце?

**— Думаю, што так!**

— Правільна думаеце. І вось чаму.

Алімпіяды — як зімовыя, так і летнія — гэта, вядома ж, найперш святы. Тут вы, што называецца, маеце рацыю. Але свята гэта найбольш для шматмільённай арміі аматараў спорту, у пэўнай меры — для саміх спартсменаў. Для нас жа — кіраўнікоў спартыўных ведамстваў і арганізацый, спецыялістаў, трэнераў, іншых адказных работнікаў галіны — гэта ў большай ступені экзамен, свайго роду рубеж, на якім выразна бачыцца ўсё, а галоўнае — хто з нас як працуе. Хто пайшоў наперад, а хто — затрымаўся ў росце і прагрэсе. Хто змог зазірнуць ужо ў заўтрашні дзень у паглыбленні і ўдасканаленні вучэбна-трэніровачнага працэсу, а хто — спачывае на лаўрах.

Прычым тычыцца гэта не толькі асобных спартсменаў, не толькі «зорак» самай першай велічыні, а і цэлых нацыянальных школ у тым ці іншым відзе спорту, федэрацый і зборных каманд краін. Так што свята святам, а нам — генеральная праверка!

**— Добра, хай будзе так. Тады такое пытанне: з якімі набыткамі прыйшла да Алімпіяды ў Нагана Беларуская рэспубліканская спартыўная арганізацыя?**

— Не хачу, каб выглядала гэта нясціпласцю, але скажу адразу: у сталіцу зімовых Гульняў мы едзем, што называецца, у поўнай баявой гатоўнасці.

Падрыхтоўка да Алімпіяды вядзецца не тыдзень, не месяц і нават не год. Высокі ўзровень напружання барацьбы патрабуе ад спартсменаў куды больш працяглага перыяду падрыхтоўкі да стартаў. І не выпадкова вельмі і вельмі многія атлеты — нават самыя славутыя — сцвярджаюць, што выступаць на Алімпійскіх гульнях для



іх — вялікі гонар і высокая адказнасць. Для многіх Алімпіяда і сапраўды з'яўляецца сэнсам усяго спартыўнага жыцця.

Нашы спартсмены ў гэтых адносінах не выключэнне. Яны выдатна разумеюць: куды едуць і чаго едуць. Мне не адзін раз даводзілася гутарыць са многімі з іх, і мяне вельмі радуе высокая ступень асабістай адказнасці кожнага з іх. Тое, што раней называлася псіхалагічнай падрыхтоўкай, на маю думку, у нацыянальнай зборнай Рэспублікі Беларусь сёння на самым высокім узроўні.

А цяпер з вашага дазволу прывяду шэраг статыстычных дадзеных.

**— Калі ласка.**

— Уся работа па падрыхтоўцы нацыянальных каманд Беларусі да XVIII зімовых Алімпійскіх гульняў будавалася на аснове двух дакументаў: сумеснай пастановы Міністэрства спорту і турызму і выканкама Нацыянальнага алімпійскага камітэта аб плане падрыхтоўкі спартсменаў да Алімпіяды, загада міністэрства і пратакола выканкама НАК аб плане асноўных арганізацыйных мерапрыемстваў па забеспячэнню ўдзелу спартсменаў у Гульнях у Нагана. Ход рэалізацыі гэтых дакументаў двойчы разглядаўся на рэспубліканскіх семінарах, чатыры разы — на пасяджэннях арганізацыйнага камітэта, на калегіях міністэрства.

Яшчэ ў красавіку 1996 года былі вызначаны кандыдаты на ўдзел у Алімпіядзе-98. Гэта былі 92 спартсмены, што прадстаўлялі 8 відаў спорту. У сезоне 1996—97 гадоў праведзены 68 вучэбна-трэніровачных збораў, каманды і асобныя атлеты прынялі ўдзел у 51 міжнародным спаборніцтве.

Колькасць дзён цэнтралізаванай падрыхтоўкі склала 250—270. Беларусы рыхтаваліся да Алімпіяды і правяралі сваю гатоўнасць да гэтых стартаў на лепшых спартыўных арэнах Аўстрыі, Германіі, Швецыі, Італіі, Швейцарыі, Францыі, Чэхіі, Злучаных Штатаў Амерыкі, Канады, Фінляндыі, Нарвегіі, Славеніі, Польшчы, Галандыі, Расіі... Іншымі словамі, планы падрыхтоўкі спартсменаў да стартаў у Нагана выкананы практычна поўнасцю. Больш таго, каманды і асобныя спартсмены па біятлону, канькабежнаму спорту, лыжных гонках, фрыстайлу «праверылі» алімпійскія трасы Японіі.

Урэшце, неблагімі аказаліся і набыткі нашых прадстаўнікоў у спартыўным сезоне, што папярэднічаў Гульням XVIII Алімпіяды. Летась на чэмпіянаце свету ў Славакіі біятланісты заваявалі тры ўзнагароды (па адной кожнай вартасці), у фрыстайле — два медалі. Нагадаю таксама, у якім бліскучым стылі выйгралі пуцёўку на алімпійскі турнір беларускія хакеісты.

**— Уладзімір Іосіфавіч, састаў алімпійскай зборнай «Звязда» ўжо друкавала на сваіх старонках. А ці не маглі б вы выказаць прагноз адносна выступлення нашых спартсменаў у далёкім Нагана?**

— Што ж, магу. Ставіцца задача заваяваць у агульнакамандным заліку 22 алімпійскія ачкі: 16 — у біятлоне, 5 — у фрыстайле, 1 — у лыжных гонках. У біятлоне маем намер пазмагацца за ўзнагароды ў эстафеце і ў адной з індывідуальных гонак. Можам «замахнуцца» на медаль і ў фрыстайле (акрабатыцы).

**— Гэта — рэальныя планы для беларускіх алімпійцаў?**

— Думаю, што рэальныя. А калі прывязём больш — таксама ніхто не будзе супраць!

**Як ужо паведамлялася, на пачатку года ў чацвёрты раз адбылося ўручэнне прэмій года Міністэрства культуры Беларусі. Лаўрэатамі сталі дзеячы культуры рэспублікі па дзевяці намінацыях (крытыка і мастацтвазнаўства, выяўленчае, музычнае, эстрадна-цыркавое, тэатральнае мастацтва, кіно і тэлебачанне, мастацкая літаратура, архітэктура, народная творчасць). У мастацкае жыццё ўсё больш упэўнена ўступае сярэдняе пакаленне творцаў. Не ўсімі адназначна ўспрыняты выбар лаўрэатаў прэстыжных прэмій. Разумеючы, што творчае асяроддзе ніколі не было аднародным у сэнсе сімпатый-антыпатый, мы даём магчымасць выказаць на старонках газеты ўсе «за» і «супраць». Рэдакцыя «Звязды» застаецца прыхільніцай плюралізму думак — так было і, хочацца спадзявацца, так будзе заўсёды.**

# ЧАРГОВАЕ АДЗЕННЕ ГОЛАГА КАРАЛЯ

**Я**К СТАЛА відавочна ў апошні час, рэклама — гэта не толькі «рухавік гандлю», але ж і рухавік мастацтва. Мастакоў зараз робіць мастакамі не мастацтва, а той, хто забяспечвае рэкламны поспех.

Раней вядомасць і аўтарытэт маладздольнаму мастаку забяспечвалі адміністрацыйная дзейнасць і вернасць лініі кіраўніцтва. За гэта давалі званні і пасады. Зараз, акрамя цеснага кантакту з тым жа самым кіраўніцтвам, патрэбна арганізаваць сабе рэкламны поспех, званні, ганаровыя тытулы і іншы шум. Каму карысна ўсё гэта: «мастак года», «чалавек года», «чалавек стагоддзя», «тысячагоддзя» ці нават — калі дадумаюцца — «чалавек чацвярцічнага перыяду кайназойскай эры»? Мастацтву гэта не карысна, наадварот. Але ж ва ўсёй гэтай мітусні нехта бачыць уласны інтарэс. Паспрабуем высветліць, які.

Перш за ўсё ўдакладнім, што значыць «мастак года». Гэта — лаўрэат прэміі Міністэрства культуры РБ за дасягненні ў галіне выяўленчага мастацтва. Лепшым мастаком сёлета прызначаны скульптар, старшыня Беларускага саюза мастакоў Генадзь Буралкін. І прызначаны за графічныя працы, за малюнкі — прафесіянальна-спрэчныя, але годныя і вартасныя з пункту погляду Міністэрства культуры.

Нельга адмаўляць тое, што скульптар мае права працаваць у графіцы, жывапісец — у скульптуры, графік — у галіне фізікі цвёрдага цела, а фізік — займацца вырабам кармавых дражджэй. Галоўнае — прафесіянальны ўзровень дасягненняў. І тое, як гэтыя дасягненні ўплываюць на ўвесь працэс развіцця беларускай культуры.

Ніхто, канешне, не будзе адмаўляць адміністрацыйных вартасцяў паважанага Г. Буралкіна. Ніколі, як зараз, Саюз мастакоў не знаходзіўся ў большай прорве. Ніколі вытворчая база не была настолькі разбураная — нават у часы таталітарнага рэжыму, калі беларускія мастацка-вытворчыя камбінаты былі непараўнальныя з тым, што рабілася на абшарах СССР. Але ж таталітарны час мінуў, патрэба ў прафесіянальным мастацтве знікла разам з ім, і да кіраўніцтва грамадскімі творчымі аб'яднаннямі прыйшлі выпадковыя асобы. Хіба нельга адзначыць гэта прэміяй на дзяржаўным узроўні? Менавіта патрэбна. І нічога, што мастацкі ўзровень прац мастакоў-кіраўнікоў увогуле другасны, галоўнае — аўтар зразумеў сэнс часу.

Малюнкі, за якія Г. Буралкін атрымаў званне мастака года, у параўнанні з сапраўды моцнымі творамі графікаў Кашкурэвіча, Паплаўскага, Асецкага, — нішто. Немагчыма параўнаць працы лаўрэата і з творчасцю маладых мастакоў В. Саўчанкі ці А. Шалімы. І ніякі мастацтвазнаўца не здольны даказаць адваротнае.

Але ж чаму менавіта працы Г. Буралкіна вызначаны як лепшыя творы мінулага года? Можа, акурат да гэтага зводзіцца ўсё, на што здольнае наша мастацтва, і ў Беларусі не створана нічога лепшага? Пагадзіцца з гэтым нельга.

У мінулым годзе адбыліся розныя выставы — і выставы на парадак мацнейшыя. Георгій Паплаўскі выканаў серыю графічных аркушаў, літаграфій і акварэляў. Выстава манументаліста і жывапісца Уладзіміра Ткачова заняла ўвесь другі паверх Палаца мастацтваў. У Нацыянальным мастацкім музеі экспанаваліся творы маладых мастакоў, якія працавалі ў акадэмічных майстэрнях. Калі весці размову аб скульптуры, то ніводнаму з гэтых так званых «маладых» паважаны «мастак года» не мае ніякага права даваць нават парады. Параўнанне твораў Аляксандра Бацвіненка, Аляксандра Чыгрына, Сяргея Гумілеўскага з працамі Г. Буралкіна сведчыць аб дылетантызме і прафесіянальнай недасканаласці апошняга. У наша мастацтва прыйшло новае пакаленне, і паўстае пытанне: чаму яго свядома не заўважаюць?

Аднак, магчыма, лепшы мастак года быў вызначаны за агульны ўклад у выяўленчае мастацтва? Прывяду толькі два прыклады. Усе жыхары скрыжавання праспекта Скарыны і вуліцы Казлова добра памятаюць вялікае, трохі абгабляванае бервяно, якое шмат гадоў стаяла ля ганка Палаца мастацтваў. Шмат наведвальнікаў вернісажаў і імпрэз стаялі побач з ім і гасілі цыгарэты ў шчылінах патрэсканага дрэва. Яны не ведалі і не разумелі, што ганьбяць мастацкі твор. Гэтае бервяно — адна з прац старшыні Саюза мастакоў. Здаецца мне, ніхто б не здолеў гасіць «бычкі» аб лыткі «Давіда» Мікеланджэла. Можна пагадзіцца з тым, што няўдачы бываюць у кожнага — але ж навошта пакідаць сваю працу ў месцы агульнага карыстання?

...Цікава іншае — якія прыярытэты ставіць перад сабою Міністэрства культуры, камісія па прысуджэнню прэмій? Не выдам вялікага сакрэту, калі скажу, што ўсё вырашаюць чыноўнікі. Меркаванні мастака і меркаванні адміністратара ад мастацтва не заўсёды супадаюць — але ж у нас пытанні «сапраўдных» каштоўнасцяў вырашаюць зусім не мастакі.

Разам з Г. Буралкіным на гэту намінацыю — прэмію за «лепшыя дасягненні» — прэтэндавалі яшчэ два чалавекі. Саюзам мастакоў быў прадстаўлены ад секцыі жывапісу Г. Лойка — але ж яго творчасць зачароўвае толькі тых, каго цікавіць абстрактнае мастацтва. Аддзел выставак і музеяў Міністэрства культуры прадставіў працы Віктара Грамыкі, аднаго са старэйшых і найлепшых нашых мастакоў. Генадзя Буралкіна вылучыў на прэмію той самы творчы саюз, якім лаўрэат кіруе — Беларускі саюз мастакоў.

Дык хто ж вырашаў лёс гэтай прэміі? Ці быў апублікаваны спіс журы: колькі ў ім мастакоў і колькі чыноўнікаў? Як праходзіла абмеркаванне і якімі былі вынікі галасавання? Дзе можа зацікаўлены чалавек знайсці гэтую інфармацыю? Дакладна вядома мне толькі тое, што адным з праўдзейных членаў камісіі быў сам лаўрэат Г. Буралкін.

«Какая-то в державе Датской гниль» — казаў прынц Гамлет у перакладзе Пастэрнака. І ўжо каторы год прэміі «мастака года» ідуць не па намінацыі мастацтва, а па намінацыі менавіта таго, што пануе ў «дзяржаве Дацкай». Напрыклад, калі «мастаком года» быў прызначаны шаноўны Уладзімір Савіч, — з кім ён спаборнічаў? З сапраўды вялікім беларускім мастаком Аляксандрам Міхайлавічам Кішчанкам. Відавочна, што «вагавыя катэгорыі» гэтых мастакоў непараўнальныя. Гэтая тэндэнцыя — ігнараваць мастацтва і шанаваць дылетантызм — вызначана саставам прэміяльнай камісіі і яе кіраўніцтвам.

У гэтым ёсць і яшчэ адзін аспект. Ні ў якой галіне творчай дзейнасці не бывае так, што пераважная большасць мастакоў, вучоных, літаратараў — яскравыя таленты, а астатнія — шэрыя пасрэднасці. Заўсёды наадварот — колькасна пасрэднасць непазбежна дамінуе. І калі разбураныя ўяўленні аб тым, што добра і што бяздарна, што істотна і што хлусліва, пытанне аб «творчых дасягненнях» вырашаецца звычайнай большасцю галасоў. І кожны голас «супраць» можна хорам аб'явіць уласным меркаваннем інтрыгана і ворага «сапраўднага» мастацтва. Няма крытэрыяў — няма і справядлівага суда, незалежнага і аб'ектыўнага стаўлення да мастацкага твора.

Чарговага мастака года мы атрымалі. Якія спецыялісты — такі і вынік конкурсу. Які суддзя — так і прысуд. Адно цікава: ці толькі тое, што круціцца ў вузкім коле наведвальнікаў міністэрскіх кабінетаў, з'яўляецца мастацтвам? Застаецца спадзявацца, што пэўныя традыцыі беларускае мастацтва захавала, і яшчэ не ўся беларуская культура адпавядае тым уяўленням, якімі кіруюцца самі кіраўнікі культуры.

**З павагай**

**Андрэй САВІЦКІ.**

***P. S.*** *Я ні ў якім разе не меў намеру назваць спадара Буралкіна «голым каралём». Голы кароль — гэта сучасны «афіцыёз» беларускага мастацтва. І вызначэнне «мастака года» — яго чарговы ўбор.*

## КАМЕНТАРЫЙ МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ

**Мы папрасілі пракаменціраваць гэтае завострана-палемічнае меркаванне намесніка міністра культуры РБ Валерыя ГЕДРОЙЦА.**

— У нас усталявалася добрая традыцыя па выніках года адзначаць лепшыя дасягненні ў галіне мастацтва, культуры рэспублікі. У кожным з дзевяці накірункаў творчай дзейнасці вызначаецца «чалавек года», яму ўручаецца Ганаровы дыплом і спецыяльная прэмія (у памеры 100 мінімальных заработных плат). Вылучэнні на спецыяльныя прэміі Міністэрства культуры ажыццяўляюць і ўпраўленні, аддзелы культуры выканкамаў мясцовых Саветаў, і творчыя саюзы, грамадскія аб'яднанні, і ўстановы культуры, мастацтва. Матэрыялы накіроўваюцца ў Міністэрства культуры, дзе разглядаюцца спачатку спецыяльнай камісіяй з удзелам прадстаўнікоў усіх творчых саюзаў, а потым — калегіяй Міністэрства культуры.

Што датычыць выяўленчага мастацтва, то ў гэтым годзе мы мелі прадстаўленні на трох творцаў. Георгій Валянцінавіч Лойка, намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў (БСМ), вылучаўся БСМ за серыю жывапісных работ «Свята». Яго персанальная выстаўка, прымеркаваная да падпісання Дагавора аб Саюзе паміж Беларуссю і Расіяй, адбылася ў Дзяржаўнай Думе Расіі і атрымала высокую ацэнку грамадскасці. Гэта прадстаўленне было падтрымана шэрагам дзяржаўных асоб Беларусі і Расіі. Другі прэтэндэнт, Генадзь Васільевіч Буралкін, старшыня Беларускага саюза мастакоў, таксама вылучаны саюзам (хадайніцтва падпісала сакратар БСМ С. Гарбунова) — за серыю скульптурных і графічных работ «Славянскія матывы». Яго выстаўкі прайшлі ў Маскве, Мінску, Брэсце, Гродне. Прадстаўленне падтрымалі мастацкая галерэя БСМ «Мастацтва», Міжнародная канфедэрацыя саюзаў мастакоў. Г. Буралкін мае пэўны аўтарытэт, з 1990 г. з'яўляецца старшынёй БСМ. Трэці прэтэндэнт быў вылучаны аддзелам музеяў і выставак Міністэрства культуры — гэта народны мастак Беларусі, прафесар Віктар Аляксандравіч Грамыка — за створаны шэраг высокамастацкіх жывапісных прац.

На пасяджэнні камісіі па прысуджэнню спецыяльных прэмій былі разгледжаны ўсе прапановы. У час абмеркавання кандыдатур дзеячаў выяўленчага мастацтва член названай камісіі Г. Буралкін пакінуў залу, не ўдзельнічаў у галасаванні. З трох прэтэндэнтаў на званне лаўрэата прэміі была вылучана кандыдатура Г. Буралкіна. Але рашэнне камісіі носіць рэкамендацыйны характар — апошняе слова застаецца за калегіяй Міністэрства культуры. З мэтай больш уважлівага падыходу да разгляду вылучаных кандыдатур у галіне выяўленчага мастацтва было прапанавана правесці камерную выстаўку работ трох мастакоў у новым Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва. Аднак В. Грамыка зняў сваю кандыдатуру з абмеркавання, прывёўшы наступныя аргументы: 1998 год для яго юбілейны, ён рыхтуецца да вялікай справаздачнай выстаўкі, па выніках якой можна будзе меркаваць аб яго ўкладзе ў выяўленчае мастацтва. Улічваючы такую сітуацыю, міністэрства зняло сваю прапанову: выстаўкі Г. Буралкіна і Г. Лойкі адбыліся ў мінулым годзе. Калегія міністэрства зацвердзіла рашэнне камісіі. Вось так развівалася сітуацыя.

**— У састаў камісіі ўваходзяць мастакі або толькі чыноўнікі? Ці вялікую ролю адыгрывае суб'ектыўнае меркаванне членаў камісіі (старшыню БСМ ведаюць лепш, часцей бачацца, гутараць у нефармальнай абстаноўцы і г. д.)?**

— Хачу падкрэсліць: камісія ніводнага творцу не вылучала — яна проста вызначыла з некалькіх прэтэндэнтаў, на яе погляд, лепшага. Сказаць, што камісія складаецца з чыноўнікаў ці людзей недасведчаных у мастацтве... гэта вельмі рызыкоўны пасыл: у састаў камісіі ўваходзяць работнікі Міністэрства культуры, кіраўнікі творчых саюзаў рэспублікі.

**— У палажэнні аб прысуджэнні спецыяльных прэмій не прадугледжваецца, каб разам з конкурсам дакументаў праходзіў конкурс работ?**

— Члены камісіі зацвярджаюцца загадзя, таму кожны павінен на працягу года знаёміцца з усімі работамі, каб не выглядаць непрыстойна ў час абмеркавання.

**— Камісія з'яўляецца агульнай для ўсіх абвешчаных намінацый, але быць дасведчаным у плане апошніх дасягненняў абсалютна ва ўсіх сферах мастацтва, напэўна, фізічна немагчыма?**

— Да гэтага члены камісіі павінны імкнуцца. Мы не можам па кожнай намінацыі ствараць камісію з 10—12 чалавек.

**— Непазбежна ўзнікае і такое пытанне: чаму пры вылучэнні «чалавека года» практыкуецца адкрытае галасаванне, а не тайнае (што было б лагічна)?**

— Можа быць і тайнае галасаванне, яно не выключаецца.

**— Як вы лічыце, чаму ў мастакоўскім асяроддзі неадназначна ўспрынята рашэнне аб лаўрэаце ў галіне выяўленчага мастацтва?**

— Раней звычайна лаўрэатамі абвяшчаліся людзі, якія ўнеслі значны ўклад у выяўленчае мастацтва, маюць ганаровыя званні народных... Зараз абмяркоўваліся кандыдатуры людзей крыху іншых, якія гэтымі званнямі не абцяжараныя. Сітуацыя не вельмі звыклая — гэта па-першае. Па-другое, кожны мастак мае свой прыватны густ. Па-трэцяе, як кіраўнік творчага саюза Г. Буралкін мае і шмат прыхільнікаў, і не менш, напэўна, людзей, якія ставяцца да яго... не тое што апазіцыйна, але яны не заўсёды задаволеныя дзейнасцю БСМ і яго старшыні. Акрамя таго, мінулы год быў вельмі спрыяльным для выяўленчага мастацтва Беларусі, адбылося шмат цікавых падзей, выставак — вылучыць чалавека, які б вельмі ярка заззяў на небасхіле нашага выяўленчага мастацтва, вельмі складана.

**Гутарыла Таццяна ПАДАЛЯК.**

## Пытальнік

### Капрамонт у разлік не прымаецца

***Мая машына на працягу года не будзе эксплуатавацца — знаходзіцца на капрамонце, аб чым ёсць запіс у тэхпашпарце. Ці патрэбна мне плаціць за гэты тэрмін дарожны збор?***

**Ю. І. КОЙНЫШ**, *г. Мінск.*

Як растлумачылі нам ва ўпраўленні дарожных фондаў, фінансаў і рэвізійнай работы Камітэта па аўтамабільных дарогах, у выпадку капітальнага рамонту транспартнага сродку льгот па аплаце дарожнага збору не прадугледжваецца. Дадзенае пытанне ўвогуле не рэгламентуецца распрацаваным парадкам. Так што нават калі ваш легкавік стаіць «на калодках», дарожны збор плаціць усё ж прыйдзецца. Парадаксальна, але факт...

### Зямля будучага: менш людзей і больш паветра?

***Нядаўна прачытала ў вашай газеце аб тым, наколькі, мякка кажучы, сумна выглядае сёння дэмаграфічная сітуацыя ў Беларусі. Гэта вельмі жудасна: растучая смяротнасць, дрэннае здароўе немаўлят, хваробы дарослага насельніцтва... Цікава, як увогуле зараз выглядае сітуацыя з насельніцтвам на Зямлі? Ці праўда, што яно пакрысе таксама змяншаецца?***

**Таісія БЕЛАВУСАВА,** *г. Мінск.*

Па прагнозах экспертаў ААН, да 2040 года насельніцтва Зямлі павялічыцца да 7,7 млрд. чалавек — гэта на трэць больш, чым зараз. Разам з тым спецыялісты прагназіруюць у будучыні стабілізацыю дэмаграфічных працэсаў на планеце. У прыватнасці, адным з магчымых такіх «рубяжоў» можа стаць 2120 год, калі колькасць насельніцтва свету «спыніцца» на адзнацы ў 10,7 млрд. чалавек. Падставай для такіх прагнозаў служаць статыстычныя даныя: калі з 1985 па 1990 год агульная колькасць жыхароў Зямлі штогод павялічвалася на 87 млн. чалавек, дык ужо летась прырост склаў «усяго» 81 млн.

У прамыслова развітых дзяржавах узровень нараджальнасці ўжо сёння даволі нізкі для рэальнага зніжэння колькасці насельніцтва (на думку спецыялістаў, даюць свой плён праграмы планавання сям'і). Мяркуецца, што ў бліжэйшым дзесяцігоддзі прырост насельніцтва Зямлі на 98 працэнтаў будзе забяспечвацца за кошт такіх краін, як Індыя, Пакістан, Егіпет і інш.

Як гэта ні парадаксальна на першы погляд, на думку вучоных, скарачэнне насельніцтва пойдзе толькі на... карысць. Найперш можна будзе вырашыць праблему з голадам і палепшыць узровень жыцця ў краінах Азіі і Афрыкі. Пачнуць развівацца краіны так званага «трэцяга свету», а прамыслова развітыя краіны атрымаюць новыя рынкі збыту тавараў. Немалаважна таксама, што можа палепшыцца і экалагічная сітуацыя ва ўсім свеце.

### Як дабудаваць дом на вёсцы

***Мы жывём у вёсцы ў хаце бацькоў мужа, у якой таксама месціцца і сям'я яго сястры. Мне 30 гадоў, знаходжуся ў дэкрэтным водпуску з другім дзіцем. Муж працуе шафёрам. Кватэру чакалі 11 гадоў. Недачакаліся і цяпер будуем дом у вёсцы за свае сродкі. Залілі падмурак і зрабілі зруб. Куды нам звярнуцца, каб атрымаць пазыку на дабудоўлю дома з растэрміноўкай выплаты?***

**Наталля Р.**, *Клецкі раён, п/а Загорнае.*

Як нам адказалі ў Міністэрстве архітэктуры і будаўніцтва Беларусі, на сям'ю Наташы Р. распаўсюджваецца дзеянне ўказа прэзідэнта РБ ад 10 верасня 1996 года № 358 «Аб мерах па паляпшэнню жыллёвых умоў моладзі». Да маладых грамадзян адносяцца асобы ва ўзросце да 30 гадоў (уключна), да маладых сем'яў — сем'і, у якіх хаця б адзін з дарослых, муж ці жонка, маюць узрост да 30 гадоў (уключна).

Па гэтаму ўказу, тыя маладыя грамадзяне, якія стаяць на ўліку маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, маюць права на атрыманне аднаразовай бязвыплатнай субсідыі ў памеры не меней як 50 працэнтаў ад агульнага нарміраванага кошту жылля. Пры неабходнасці магчыма атрымаць яшчэ і льготны крэдыт у памеры астатняй часткі кошту будаўніцтва жылля з разліку 20 кв. метраў агульнай плошчы на члена сям'і.

На асобны ўлік маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў прымаюцца маладыя сем'і, маладыя грамадзяне з ліку адзінокіх маці, разведзеных (аўдавеўшых) мужоў ці жонак, якія выхоўваюць непаўналетніх дзяцей, у тым ліку калі яны пражываюць сумесна з бацькамі (незалежна ад узроўню забеспячэння жылой плошчай), у інтэрнатах, у службовых жылых памяшканнях, па дагавору паднайму ў дамах дзяржаўнага і грамадскага жыллёвых фондаў, або па дагавору найму ў дамах, якія належаць ЖБК ці грамадзянам на правах уласнасці, а таксама ў якасці часовых жыхароў, калі яны жадаюць ажыццявіць будаўніцтва (рэканструкцыю) ці куплю жылля за кошт уласных сродкаў, аднаразовых бязвыплатных субсідый і льготных крэдытаў.

Акрамя таго, субсідыі выдаюць тым маладым грамадзянам, сярэднямесячны сумесны даход сям'і якіх з улікам маёмаснага становішча не перавышае памеру двух мінімальных спажывецкіх бюджэтаў на кожнага члена сям'і. Субсідыі і крэдыты выдаюць па чарзе ў залежнасці ад часу пастаноўкі на ўлік маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, а таксама ў межах сродкаў, прадугледжаных на гэтыя мэты.

Па пытаннях атрымання субсідыі і льготных крэдытаў трэба звяртацца ў мясцовы выканаўчы камітэт да тых службаў, у якіх да гэтага вы, Наталля, стаялі на ўліку маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў.

### «Бацька-герой» раней на пенсію не пойдзе

***Ці мае права мужчына, які выхаваў пяцёра дзяцей без маці, пайсці на пенсію на 5 гадоў раней? Жанчыны ж такой прывілеяй карыстаюцца.***

**С. Р.**, *Лоеўскі раён.*

З гэтым пытаннем рэдакцыя звярнулася ва ўпраўленне пенсій і дапамог Міністэрства сацыяльнай абароны. У адпаведнасці з часткай 1 артыкула 19 Закона «Аб пенсійным забеспячэнні» права на датэрміновую пенсію па ўзросту ў 50 гадоў маюць жанчыны, якія нарадзілі 5 і больш дзяцей і выхавалі іх да 8-гадовага ўзросту (а таксама жанчыны, у якіх да гэтага часу пятае дзіця не дасягнула 8 гадоў), пры наяўнасці ў іх стажу работы не менш за 15 гадоў.

Мужчынам, якія выхавалі пяцёра і больш дзяцей, права на датэрміновую пенсію па ўзросту дзеючым заканадаўствам не прадугледжана.

# ЦЕРАБЛІЦКІ ПАТРЫЯТЫЗМ

Адно з самых глухіх, хоць і немалых паселішчаў (тут 400 хат) на Століншчыне спрадвеку — вёска Цераблічы. І ў дадатак няма сваёй царквы. Магчыма, што продкі былі занятыя паляваннем, бортніцтвам ды рыбацкімі справамі. Ці добрых цяслярскіх рук не было... Вось і вымушаны сённяшнія мадонны тэпаць ажно за тры кіламетры ў Аздамічы кожную нядзелю і кожнае свята.

На рацэ Сцвіга стаяць Цераблічы. І ўся гісторыя вёскі на гэтым будуецца. Тутэйшых пасяленцаў-паганцаў у Сцвізе, нібы ў Іардане, хрысцілі...

Колькі год таму рэчышча ракі адвялі ад вёскі, спаганіўшы краявід яшчэ больш, чым у часы меліярацыі. І зноў не пытаючыся на тое волі гаспадароў. Гэтак асвойваліся «чарнобыльскія грошы».

Гэта адно з самых крайніх паселішчаў на беларуска-ўкраінскім памежжы. Хоць да памежжа добрых паўсотні кіламетраў непраходнымі балотамі і глухімі лясамі. Магчыма, гэта самыя журавінныя балоты ў Беларусі. Нягледзячы на радыеактыўнае забруджванне наваколля, столінскія журавіны з'яўляюцца асноўным відам бізнесу для многіх цераблічкіх і з суседніх вёсак сем'яў.

Ні геаграфічнае, ні экалагічнае і ні эканамічнае становішча не бянтэжыць





сучасных цераблічан. Вельмі рэдка хто пакідае свой край. Вясковыя дзеці, як чарнобыльскія ахвяры, былі нават у Аўстраліі. Тутэйшыя агароднікі і ягаднікі гандлююць ажно на маскоўскіх базарах.

Не, не ў крыві палешукоў сваім пагарджаць.

**Анатоль КЛЯШЧУК.**

*НА ЗДЫМКАХ: цераблiцкi млынар Рыгор Мiкша; дарога з царквы; «перакур» на ваенлясгасаўскім двары.*

**Фота аўтара.**

## Спадчына

# Няма лепшай вадзіцы, чым з капыльскай крыніцы!

Амаль у цэнтры сучаснага Капыля веліча ўзвышаецца Замкавая гара — помнік археалогіі. Згодна з паданнем, у старадаўнія часы тут размяшчаўся замак. Быў ён непрыступны для ворага, бо баранілі яго і стромкія схілы Замкавай гары, і рэчка Каменка, што бруілася ля гэтых схілаў. Але так сталася, што патануў у гэтай рэчцы адзіны сын чараўніцы, што жыла побач з гэтым замкам. У роспачы сваёй пракляла яна рэчку Каменку і схавала яе ў нетрах Замкавай гары. З таго часу і прыйшоў у заняпад замак. А пра тыя падзеі нагадвае крынічка, што б'е з-пад гэтай гары і сцякае ў невялікую цяпер ужо рэчку Каменку.

Цікавае паданне і археалагічныя раскопкі, што праводзіліся на Замкавай гары Капыля, наводзяць на думку, што тут, на гэтым месцы, у IX—X стагоддзях мог размяшчацца сакральны цэнтр усходнеславянскага племя дрыгавічоў — капішча. Магчыма, ад назвы гэтага месца, альбо ад скарочанага варыянта гэтага слова «Капа, Капь» і ўтварылася сама назва паселішча — Капыль.

Але цікавая не толькі гістарычным паданнем замкавая крынічка. Хімічны аналіз вады з яе, зроблены ў лабараторыях Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта, сведчыць аб тым, што вада з гэтай крынічкі высокамінералізаваная, адносіцца да ліку гідракарбанатных кальцыева-магніевых водаў. Утрыманне ў ёй мінеральных соляў складае 0,5—0,6 грама на літр. Асабліва шмат у ёй крэмнію, што надае вадзе празрыстасць і непаўторны смак. У параўнанні з пітной вадой, якую часам даводзіцца бачыць у продажы, прывезенай з далёкай Фінляндыі, капыльская вадзіца па сваіх якасцях не толькі не ўступае ёй, а нават пераўзыходзіць.

На Беларусі здаўна ўшаноўвалі святыя крыніцы. Ставілі ля іх крыж, узводзілі альтанку або ладзілі каплічку. Магчыма, памятная альтанка будзе ўзведзена і над капыльскаю крынічкай. Праект такой альтанкі распрацаваў дацэнт Беларускай політэхнічнай акадэміі, кандыдат архітэктуры С. Сергачоў — вядомы даследчык традыцыйнага драўлянага дойлідства Беларусі.

**Лявон КАЛЯДЗІНСКІ,**
**старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі.**

# Ад аліментаў не адмаўляйцеся

***Паважаная рэдакцыя! Я замужам другі раз. Ад першага шлюбу ў мяне засталася дачка, якой зараз 8 гадоў. Ад аліментаў я адмовілася і да апошняга часу, а пражыла я з другім мужам 6 гадоў, атрымлівала на дзіця ад дзяржавы дапамогу. Але зусім нядаўна мне па месцы работы ў дапамозе адмовілі, матывуючы сваю адмову тым, што, калі я адмовілася ад аліментаў, значыць, у стане выхоўваць дзіця сама. Наш сярэднямесячны даход сям'і складае 1.138.198 рублёў, а на аднаго члена сям'і прыпадае 379.399 рублёў. У сувязі з гэтым хацелася б ведаць, ці мае права бухгалтэрыя пазбавіць мяне дапамогі на дачку і прымушаць вярнуць выплачаныя за год грошы.***

**М. Ф. МАРКОЎСКАЯ**, *Вілейскі раён.*

Як растлумачылі ў аддзеле сям'і і гендэрных праблем Міністэрства сацыяльнай абароны РБ, — той факт, што вы адмовіліся ад спагнання аліментаў, не дае вам права не прымаць пад увагу частку даходаў бацькі пры вызначэнні штомесячнай дзяржаўнай дапамогі на дачку, паколькі, згодна з Кодэксам законаў аб шлюбе і сям'і, бацькі нясуць у адносінах да сваіх дзяцей роўныя абавязкі, нават калі шлюб паміж імі скасаваны. Калі вы не змаглі прадставіць у бухгалтэрыю даведку аб даходах вашага былога мужа за папярэдні год, то пры вылічэнні сукупнага даходу ў даход вашай сям'і павінны былі залічыць сукупную велічыню мяркуемых аліментаў. Ваш даход перавысіў усталяваны мінімум, а гэта азначае, што права на дапамогу на дачку ў 1997 годзе вы не мелі. Што датычыцца спагнання пераплачаных сум дапамог, то ў адпаведнасці з заканадаўствам гэтыя сумы падлягаюць вяртанню ў поўным памеры, у тым ліку з наступных выплат дапамог або заработнай платы. У выпадках адмовы ад іх пакрыцця яны спаганяюцца ў судовым парадку.

## Паштовае аддзяленне

# У Яцкавічах ужо светла

Ад імя жыхароў вёскі Яцкавічы Мядзельскага раёна нам напісаў чытач Франц Бабарыка. Як вынікала з ліста, у гэтай невялікай вёсцы раней свяцілі тры вулічныя ліхтары, якія самі жыхары маглі ўключаць вечарам і выключаць з наступленнем раніцы. **«А нядаўна прыехалі электрыкі і абрэзалі гэтыя ліхтары, патлумачыўшы, што будзе ўключана святло па ўсіх слупах праз рэле. Мы спачатку чакалі, а потым рашылі, што гэта пустыя абяцанні... Зараз цямнее рана, і ў вёсцы ўжо ў шэсць гадзін вечара хоць вока выкалі. А ў суседнім Ілаве, якое за паўкіламетра ад нас — хоць іголкі збірай. У нашай вёсцы жывуць у асноўным пенсіянеры, дык можа ўлады лічаць, што ім святло не трэба — дажывуць і ў цемры?»** — абурана пытаецца наш чытач.

З Мядзельскага райвыканкама, куды рэдакцыя пераслала пісьмо, каб неяк рэальна дапамагчы жыхарам Яцкавіч, нам адказалі, што пры рамонце вулічнага асвятлення ў вёсцы работнікі раённай электрасеткі адключылі ліхтары, якія жыхары падключылі самавольна, без захавання тэхнікі бяспекі. А абяцанні электраманцёраў былі не пустымі: замест трох ліхтароў у вёсцы зараз свецяць шэсць. Таму, думаецца, жыхары Яцкавіч ужо без зайздрасці глядзяць на суседняе Ілава.

**Аддзел пісьмаў «Звязды».**



## Пісьмо з каментарыем

# Чаму на вёсцы хлеб нясмачны?

***Дапамажыце разабрацца з цэнамі на хлеб і батоны. Хлеб да нас прывозяць двух гатункаў, але самы танны каштуе 6400 рублёў за 800 грамаў, а вы пісалі, што павінен быць 6000 рублёў. Пра батоны наогул гаварыць цяжка: такіх чорных мы раней ніколі не бачылі. З якой мукі іх выпякаюць? Ды і каштуюць яны 9300—10.000 рублёў за 500 грамаў. Нам вельмі хацелася б даведацца, у чым тут справа?***

**Жыхары** в. Грыцэвічы *Клецкага раёна.*

***Дапамажыце разабрацца з цэнамі на хлеб. Да нас яго прывозяць з Навагрудка і каштуе ён 9400—9900 рублёў. А між тым ён самы звычайны. У вашым выданні я прачытаў, што хлеб павінен каштаваць менш...***

**Антон Рачко,** *в. Парэчча.*

Гэтыя лісты прыйшлі ў рэдакцыю з розных месцаў, але ў адзін час. Па ўсім бачна, дасылалі іх людзі састарэлыя, у якіх на вёсцы кожная капейчына на ўліку. Ды што грошы — нікому з нас неабыякава, чым ён харчуецца. Апошнім часам нараканняў на якасць хлеба і хлебабулачных вырабаў (у першую чаргу — у сельскай мясцовасці) больш чым дастаткова. Бачыць і есці той хлеб даводзілася і самому, таму цалкам зразумелы чэргі за прывазным, асабліва калі са сталіцы ці іншага буйнога горада. Мясцовы хлеб, як правіла, не вызначаецца якасцю мукі, ні добрай выпечкай, ні смакам. Чаму так адбываецца, паспрабуем адказаць з дапамогай спецыялістаў Мінскага аблспажыўсаюза.

Чаму мы аддаём такія грошы за хлеб такой якасці? Адказ просты: якраз ад беднасці нашай. Хлеб масавых гатункаў, да якога, напрыклад, адносяцца гатункі «Беларускі», «Прыдняпроўскі», выпякаюць без цукру і напаўняльнікаў. Калі зусім проста: толькі з мукі, вады і солі. Якая мука — такі і хлеб; спецыялісты скардзяцца, што сёлета на выпечку ідзе няякасная жыта. Цэны на хлеб дэкларуюцца аблвыканкамамі, на батоны (у іх рэцэптуру уваходзіць цукар) — устанаўліваюцца зыходзячы з выдаткаў прадпрыемства. У абодвух выпадках дзейнічаюць абмежаванні на гандлёвую надбаўку. На хлеб і хлебабулачныя вырабы для ўсіх суб'ектаў гаспадарання, незалежна ад іх падпарадкавання, узровень надбаўкі складае 10 працэнтаў, для прадпрыемстваў, якія працуюць у сельскай мясцовасці і дзе большыя выдаткі на дастаўку (спажывецкая кааперацыя, аддзелы і ўпраўленні рабочага забеспячэння на транспарце, ваенгандаль) — 15 працэнтаў. Гранічныя адпускныя цэны на хлеб масавых гатункаў сёння вызначаны ў памеры 6600 рублёў, аднак спецыялісты сцвярджаюць, што пакуль яны крыху меншыя — 5800—6000 рублёў за бохан. Прыкладна такая ж сітуацыя і з батонамі, толькі лічбы іншыя. На момант падрыхтоўкі матэрыялу на батоны масавых гатункаў (простыя, без напаўняльнікаў) з утрыманнем цукру і тлушчаў не больш як 3 працэнты адпаведна вызначаны наступныя цэны ў пераразліку на адзін кілаграм: з мукі вышэйшага гатунку — 17.300 рублёў, з мукі першага гатунку — 13.900 рублёў. Батоны палепшанай якасці (звыш 3 працэнтаў цукру і тлушчаў) у тым жа пераразліку маюць наступныя адпускныя цэны: з мукі вышэйшага гатунку — 20.400, з мукі першага гатунку — 17.300 рублёў. Дзяліце гэтую суму напалам (батон важыць 500 грамаў), накідвайце гандлёвую надбаўку ў памеры 10—15 працэнтаў — і вы атрымаеце кошт батона ў вашай краме.

А што, калі разлікі і кошт не супадаюць? Магчыма, вам прапануюць хлеб палепшаных гатункаў ці батоны з напаўняльнікамі (напрыклад, рызынкамі), якія, вядома, каштуюць даражэй. І хаця выпуск хлеба масавых гатункаў і палепшанай якасці вызначаны — напалову таго і напалову іншага, на справе, думаецца, цяжка дакладна пракантраляваць, у якую вёску і колькі разоў якія хлеб і батоны завезлі...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

# «Выкрунтасы» мясцовага маштабу

*Прачытаў у вашай газеце аб тым, што ад аплаты дарожнага збору вызвалены сем'і, дзе ёсць інвалід з парушэннем апорна-рухальнага апарата. Мая жонка — інвалід I групы, ледзь ходзіць, і калі трэба куды ехаць, то мне прыходзіцца везці яе амаль у ляжачым стане. Звярнуўся ў раённы аддзел Навагрудскага ДАІ, але там толькі развялі рукамі — маўляў, нічога не ведаем пра такое палажэнне. Я паказаў выразку са «Звязды» начальніку мясцовай дзяржаўтаінспекцыі, а ён сказаў, што такая льгота толькі для чытачоў...*

**Шайбак Т. Н.,** *Навагрудскі раён.*

Па тлумачэнні мы звярнуліся ва ўпраўленне дарожных фондаў і рэвізійнай работы Камітэта па аўтамабільных дарогах. Там паведамілі аб тым, што ад аплаты дарожнага збору сапраўды вызвалены сем'і, дзе ёсць інваліды з парушэннем апорна-рухальнага апарата. Так што на месцах, напэўна, ці то не ведаюць пра існаванне гэтага дакумента, ці то сапраўды адмаўляюцца яго выконваць.

# СТАРАЖЫТНЫЯ БЕЛАРУСЫ МЕЛІ АСТРАНАМІЧНУЮ АБСЕРВАТОРЫЮ?

**Наша мінуўшчына тоіць у сабе яшчэ шмат загадкавага і таямнічага, і спатрэбіцца, мабыць, не адно стагоддзе, каб не тое што знайсці адказы, а хаця б наблізіцца да разгадкі шматлікіх пытанняў жыцця нашых далёкіх продкаў. Сёння мы прапануем пазнаёміцца яшчэ з адной таямніцай, якую пакінулі нам старажытныя беларусы — каменным комплексам на Янавым возеры пад Полацкам. Пра валуны — маўклівыя сведкі мінуўшчыны — і абрады, што былі звязаны некалі з імі, «Звязда» ўжо пісала. Чым жа такім адметная гэтая каменная канструкцыя? Справа ў тым, што ў вучоных ёсць падставы меркаваць, што каменны комплекс на Янавым возеры ўяўляе сабой нешта сярэдняе паміж архаічнай астранамічнай абсерваторыяй і аграрным календаром.**

## ЗАГАДКАВАЯ МЯСЦІНА

Падставы для гэтага меркавання досыць грунтоўныя: агульнаеўрапейская культура мегалітычных помнікаў (Англія, поўнач Францыі, Германіі, Данія, поўдзень Швецыі, Літва, Латвія, Эстонія, паўночны захад Расіі), дзе камяні выкарыстоўваліся з сакральнымі мэтамі, у прыватнасці, для каляндарных назіранняў за небам, і якія канцэнтруюцца ў межах 48—62 градусаў паўночнай шыраты. Мегалітычныя помнікі створаны часткова з мясцовых горных парод, часткова, як і помнік на Янаве, — з валуноў, прынесеных ледавікамі са Скандынавіі. Дарэчы, «каляндарная» традыцыя таксама працягваецца на ўсход за ледавіковымі мегалітамі ў тых жа шыротных межах (Урал, Алтай). Найбольш дасканалыя з каляндарна-астранамічных помнікаў — Стоўнхендж у Англіі (52 градусы) і Аркаім на Урале (53 градусы). Янава возера ляжыць на 56 градусе паўночнай шыраты.

Валуны знаходзяцца за паўкіламетра ад вёскі і за сотню метраў ад берага возера. Яны займаюць вяршыню пакатай градкі, прыціснутай да берага і прыўзнятай над вадой метраў на пяць. Сама пляцоўка з камянямі — роўная і адкрытая, абароненая з аднаго боку ўласна возерам, з другога — рэчышчам доўгай вільготнай лагчыны. Відаць, што некалі (ды і зараз) гэтая мясціна была даволі ізаляваная. Пляцоўка ўражвае дакладнымі прыметамі чалавечай дзейнасці: добра бачныя два каменныя квадраты, вялікі і малы, два вялікія апрацаваныя камяні побач, некалькі валуноў-пірамід.

— Было відавочным, што камяні пакладзены штучна — расказвае адзін з удзельнікаў геалагічнай экспедыцыі, якая і знайшла каля 10 гадоў таму комплекс камянёў ля Янавага возера, кандыдат геаграфічных навук, загадчык лабараторыі неагеадынамікі Інстытута геалагічных навук НАН Аляксандр Карабанаў. — Гэта не выклікала ніякіх сумненняў, бо ў прыродзе не сустракаецца формаў, якія нагадваюць правільны прамавугольнік.

Камяні былі выкладзены так, што ўтваралі амаль правільную літару «П». Кожны яе бок меў аднолькавую даўжыню і складаў 15 метраў. Таму фігура яшчэ нагадвала вялізны квадрат без аднаго бока.

## ШТУЧНЫ КАЛЯНДАР ПРОДКАЎ

— Мы апыталі мясцовых жыхароў, аднак нічога канкрэтнага не даведаліся, — працягвае Аляксандр Карабанаў. — Тады вырашылі пайсці іншым шляхам: высветлілі, дзе і калі заходзіць сонца. У рэшце рэшт схіліліся да высновы, што комплекс на беразе Янавага возера — рэшткі старажытнай абсерваторыі. Хаця археалагічных пацвярджэнняў гэтаму няма, але, з іншага боку спецыяльныя работы ў гэтым накірунку таксама не праводзіліся.

Але ў вочы адразу кідалася некалькі асаблівасцяў каменнай кампазіцыі. Па-першае, яе бакі былі арыентаваны на кірункі свету так, што яна глядзела сваёй адкрытай часткай на паўночны захад. Туды ж, па азімуту каля 320 градусаў, былі накіраваны бакавыя «рыскі» літары. Па-другое, яна была складзена з мноства камянёў ружовага або чырвонага колеру. Ледавік, як вядома, пакідаў пасля сябе валуны рознага саставу і афарбоўкі. Тут жа быццам спецыяльна былі сабраны толькі граніты і гнейсы пэўных адценняў. Па-трэцяе, да аднаго з бакоў фігуры была далучана яшчэ адна прыбудова меншага памеру (8—10 метраў у папярочніку). У яе ўваходзілі дзве буйныя вуглаватыя глыбы, пляскатыя грані якіх былі збліжаныя, а шчыліна паміж імі глядзела туды ж — на паўночны захад. Была і яшчэ адна дэталь — калі стаць у цэнтр каменнай літары і паглядзець у той бок, куды яна адкрытая, то якраз насупраць, на процілеглым беразе возера, ляжыць вастраверхі ледавіковы пагорак з крутымі схіламі (гара Валатоўка). Гэта самая прыкметная мясціна ў акрузе, яна вышэй за паверхню возера метраў на 25. Дарэчы, сама пляцоўка з камянямі, адкрытая для назіранняў, з даляглядам на адлегласці 0,5—5 км, — таксама нячастая з'ява для Беларусі, асабліва калі ўлічыць, што люстэрка возера таксама дае пэўны аптычны эфект пры назіраннях. Па ўсіх прыметах выходзіла, што на беразе Янава возера захаваліся сляды старажытнай пабудовы, звязанай са святкаваннем летняга сонцастаяння. Хутчэй за ўсё тут знаходзілася капішча таго самага боства, якое, як мяркуюць некаторыя гісторыкі і этнографы, называлі Купалай. І цяперашняе гулянне на Івана Купалу — толькі водгук старажытных язычніцкіх вераванняў.




*Схема размяшчэння ўрочышча Камяні на беразе Янава возера.*

## КАПІШЧА КУПАЛЫ ЛЯ ВОЗЕРА

Вось што пісаў у сваёй кнізе «Маўклівыя сведкі мінуўшчыны» вядомы беларускі геолаг Эрнст Ляўкоў: «Амаль заўсёды на пытанне, дзе заходзіць сонца, не задумваючыся, адказваюць: «На захадзе». Калі ж station паназіраць за месцам, дзе за небасхілам хаваецца свяціла, дык пераканаешся, што такое сцвярджэнне не зусім дакладнае. Летам, напрыклад, яно адхіляецца на поўнач, а ў дзень летняга сонцастаяння садзіцца на паўночным захадзе. ...Ноч, якая настае пасля летняга сонцастаяння (з 23 на 24 чэрвеня старога стылю), называюць Купалай, Купаллем. На яе прыпадае адно з самых старых і значных, вясёлых і любімых народам святаў. ...Нярэдка, асабліва даўней, абрады набывалі эратычны характар: «Сходятся народи — мужи и жены и девицы на нощное плещевание и бесчинный говор, на бесовские песни и плясание и на богомерзкие дела. И бывает отрокам осквернение и девкам разтление...» На досвітку ўсе ішлі купацца. Стагоддзямі царква не магла адвучыць людзей ад гэтых язычніцкіх абрадаў. Таму царкоўнікі прымеркавалі да гэтага часу свята ў гонар Яна Хрысціцеля. Адсюль другая назва свята — Янава (Іванава) ноч (або дзень)».

У старажытных земляробаў не было зручнага календара, які б дазваляў без асаблівых цяжкасцяў даведацца пра гэты дзень года. Арыентавацца ў часе і вызначаць момант сяўбы і жніва дапамагала веданне розных прымет і назіранне за развіццём прыроды. Раўчукі на Янавых камянях, як прымітыўны тэадаліт, паказвалі кропку на небасхіле, каля якой садзілася сонца ўвечары перад Купаллем. Магчыма, вастраверхі пагорак (гара Валатоўка) быў арыенцірам. Калі сонца заходзіла за яго, гэта было сігналам для назіральнікаў, якія знаходзіліся на другім беразе возера. Сігналам, які вызначаў момант сонцавароту і святкавання Купальскай ночы.

Янаў комплекс — складаны помнік высокай старажытнай культуры, пакуль адзіны ў Беларусі і адзін з нямногіх у Еўразіі. Шэрагам экспедыцый былі вызначаны суадносіны размяшчэння камянёў са з'явамі на небе (усходы— заходы Сонца, Месяца, іншых планет, зорак), што паказала астранамічную працаздольнасць комплексу.

У старажытнасці наваколле Янава возера належала да тэрыторыі Полацкага княства. У свой час яно было не толькі найбольш моцным на беларускай зямлі, але і адным з магутнейшых сярод усходняга славянства. Яшчэ ў сярэдзіне XI стагоддзя ў Полацку на месцы драўлянага храма быў пабудаваны Сафійскі сабор — самае старажытнае манументальнае збудаванне ў Беларусі. Тут сфарміраваўся ўплывовы рэлігійны цэнтр, які распаўсюджваў хрысціянства на полацкай зямлі.

Зразумела, што ў такім становішчы язычніцкае капішча, у цэнтры княства і па суседству з Полацкам, хутка спыніла сваё існаванне. Адсюль вынікае, што камяні на беразе Янава возера не «працуюць» ужо не адно стагоддзе...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## СМЕХАТЭРАПІЯ




Малюнак Леаніда **РАЗЛАДАВА.**

### Анекдот ад «зоркі»

**Леў НАВАЖОНАЎ, журналіст НТБ:**

*Тэлефонная размова:*

*— Прывітанне, як жывеш?*

*— Добра!*

*— Прабачце, я не туды трапіў.*

■

**Аркадзь АРКАНАЎ, сатырык:**

*Арабскі шэйх вярнуўся дадому пасля паездкі ў ЗША. Сябар пытае, што яго ўразіла больш за ўсё.*

*— Іх рэклама, — адказвае шэйх, надзяваючы лыжы.*




Малюнак Аркадзя **САЛТЫКОВАВА.**



Малюнак Леаніда **РАЗЛАДАВА.**

## Гавораць дзеці

— Юля, колькі ў цябе бабуль?
— Дзве. Баба Вера і баба Оля.
— А дзядуль?
— Тры. Дзед Федзя, дзед Слава і дзед Мароз.

●

У малога Віці пытаюць:
— А як завуць тваю матулю?
— Не ведаю.
— Ну а як яе бацька кліча?
— Ідзі сюды.

●

Касціку адзін з гасцей дае цукерку і кажа:
— Я ехаў каля лесу, і маленькі зайчык перадаў табе гэты гасцінец.
Малы падумаў, а пасля пытае:
— А вялікі мядзведзь мне нічога не перадаваў?

●

Сашу 4 гады:
— Мне прысніўся страшэнны сон. Мы пайшлі ў кіно, а гэта аказаўся дзіцячы сад.

●

Маці гаворыць сыну:
— Зачыні фортку, на вуліцы холадна.
— А што, калі я зачыню, на вуліцы цяплей стане?

●

Вовачка ўвечары кладзецца спаць і кажа:
— Матуля, я буду моцна спаць, як корак у шампанскім.

●

Маломy Рому:
— Ты навошта кінуў камень у цёцю?
— Я не кінуў, я прамахнуўся.

●

Трохгадовы Саша:
— Калі я вырасту, тата мне падорыць на Новы год вусы.

## *РЫБАЦКІЯ БАЙКІ*

### «Прынада»

Іван і Васіль — суседзі і абодва заўзятыя рыбакі. Аднойчы ў нядзелю, зранку, Васіль з вудамі зазірнуў да Івана:

— Ну што, едзеш? Сёння павінен быць добры клёў. Я і «для сугрэву» захапіў з сабой...

Але Іван пасля ўчарашніх гасцей трымаўся за галаву і з дакорам паглядзеў на суседа.

— Куды ж я паеду за рулём? Яшчэ пасля ўчарашняга як дыхну — мухі дохнуць. Ды і апахмяліцца нельга будзе. На трасе ж даішнікі лютуюць.

— А калі зараз па шкляначцы?

— Ты што, мая Маруся такі гвалт падыме, што ўсю вёску на ногі падыме.

— Што ж прыдумаць?

На хвіліну сябры замоўклі і толькі чуваць было, як Маруся на кухні мыла посуд.

— Слухай, Іван, ідэя! — раптам ускочыў Васіль. — У цябе ж за агародам сажалка выкапана. Праўда, там акрамя жаб нічога не водзіцца. Але гэта не бяда. Наогул, выганяй сваю тачку, загружаемся і айда з двара. А там машыну за хлеў схаваем, закінем вуды і пахмялімся. Ідзе? А Марыя няхай думае, што на рыбалку паехалі.

Як вырашылі, так і зрабілі. Узнялося сонца, а на траўцы каля сажалкі піравалі суседзі. На вуды, што сіратліва стаялі ля вады, не звярталі ўвагі. Ды вось няўдача: гарэлка і закуска яшчэ заставаліся, а хлеб скончыўся. Давялося Івану ісці дадому. Ён ведаў, што ў гэты час Марыя павінна быць на агародзе. Можа і не заўважыць.

Ледзь не па-пластунску прабраўся ў дом, і толькі адрэзаў лусту хлеба, як на парозе раптам з'явілася Маруся.

— Ты што, з рыбалкі ўжо вярнуўся? — спытала яна.

Але Івана так проста не возьмеш. Не міргнуўшы вокам, упэўнена адказаў:

— Ды разумееш, нарваліся на рыбнае месца, і такі клёў, што прынада скончылася. Давялося ехаць дадому за хлебам.

І, не даючы жонцы часу на роздум, сігануў у дзверы і пабег у бок хлява, дзе чакаў яго Васіль.

### Цёплая «пасцель»

Пра калектыўныя выезды на зімовую рыбалку шмат смешных гісторый. Але гэтая, бадай, можа ўвайсці ў лепшую «дзесятку».

Сабраліся неяк чалавек 12 і арганізавана выехалі на возера. І кожны з сабой прыхапіў. Але, як бачна, не разлічылі, атрымаўся перабор. Час набліжаўся да абеду, а рыбакі былі ўжо «гатовыя». Нехта, праўда, яшчэ спрабаваў прабіваць лунку, нехта шукаў сваю скрыню з вудамі. А адзін ужо заснуў прама на лёдзе. Тут да яго, хістаючыся, падыходзіць другі аматар культурнага адпачынку на прыродзе:

— На чым ляжыш?

— А ты што, не бачыш? На пешні.

— Ну, тады давай пасунься. Для аднаго зашмат будзе.

### Нэсі з Белаазёрску

Прыехалі ўлетку рыбакі на Белаазёрскі канал на начны лоў сома. Чулі, што тут трапляюцца вельмі буйныя экземпляры.

З вечара селі павячэраць, злёгку ўзялі «на грудзі». Ноч жа доўгая. Закінулі спінінгі-донкі. На кручкі насадзілі прынаду — курыную пячонку. Селі і чакаюць клёву.

Усё б нічога, але адзін, калі закідваў у цемры спінінг, перастараўся. Прынада з грузам упала не ў ваду, а на процілеглы бераг. А там бегаў галодны сабака...

І вось цішыню ночы парушыла трашчотка спінінга. Рыбак ускочыў, падсёк і адчуў на другім канцы лескі моцнае супраціўленне. Відаць, вялізны сом трапіў. Тут спрытнасць патрэбна, а то сарвецца — і бывай, сом.

Яго акружылі таварышы, кожны імкнуўся дапамагчы парадай.

— Цяжка, супраціўляецца, — крычаў шчаслівы рыбак. — О, здаецца, лягчэй пайшоў. Падсачак давай!

Усе ўважліва ўглядаліся ў прыбярэжную паласу вады, адкуль вось-вось павінна з'явіцца вялізная рыбіна. Раптам з вады вынырнула нейкае страшыдла з разяўленай клыкастай пашчай. За секунды рыбакоў з берага як ветрам сарвала. А сабака абтросся і рвануў у процілеглы бок.

Потым доўга людзі расказвалі, што ў канале жыве нейкая «Нэся».

### Хітры чарвяк

Паехаў сусед на рыбалку. Вярнуўся ўвечары і расказаў сваю гісторыю:

— На маім любімым месцы нікога не было. Я закінуў вуду, пачаў чакаць. Раптам паплавок ціхенька пачаў падскокваць. Падсёк, але на кручку пуста, толькі круціцца вялізны чарвяк. І так паўтаралася некалькі разоў.

Нарэшце я не вытрымаў. Распрануўся, узяў маску і нырнуў пад ваду, каб паглядзець, што ж там адбываецца. Бачу, сядзіць мой чарвяк на кручку і дрэмле. Але вось на яго звярнуў увагу акунь, падплыў бліжэй. І калі адлегласць паміж ім і чарвяком скарацілася да небяспечнай мяжы, чарвяк раптам занепакоіўся, закруціўся. Потым давай тузгаць за лёску і крычаць: «Эй, гаспадар»! Гэта каб я яго выцягнуў і выратаваў ад акуня. Вось табе і сакрэт пустых паклёваў...

**Рыбацкія гісторыі запісаў Алесь САЦУК.**

*СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ*

## КРЫЖАВАНКА

**Па гарызанталях**: 3. Тып каўбасы, прыгатаванай з субпрадуктаў (разм.). 9. Прыгатаваныя для ўжывання прадукты харчавання. 10. Парода галубоў. 11. Папярэдняя перад асноўнай вайсковай службай падрыхтоўчая ўстанова (разм.). 12. Боязь змен, застой. 13. Магчымая небяспека. 14. Бязворсавы насценны дыван. 17. Высокая балотная трава. 20. Акружэнне ўмацаванага месца з мэтай захопу яго. 23. Невялікая вежа над будынкам. 25. Славутая амерыканская кінаактрыса, якая сыграла галоўную ролю ў фільме «У джазе толькі дзяўчаты». 26. Ганьба. 27. Старажытны горад на рацэ Прыпяць. 28. Імператар у старажытным Рыме. 29. Сігнал трывогі, які падаецца ўдарамі ў звон. 30. Асоба, якая жыве або падарожнічае, не выкрываючы свайго імя. 31. Задняя частка шыі. 34. Кавалак тканіны, якая нашываецца на пашкоджанае месца адзення. 37. Спадніца з даматканага палатна. 41. Дадатковы груз на караблі для павышэння яго ўстойлівасці. 42. Кавалак тканіны для гігіенічных мэтаў. 43. Набой для стрэльбы: трубачка з порахам і шротам для аднаго зарада. 44. Ідэя мастацкага твору. 45. Дакумент, які пацвярджае паўнамоцтвы. 46. Пачуццё спачування.

**Па вертыкалях**: 1. Ядавітае рэчыва, што згубна дзейнічае на жывы арганізм. 2. Папулярная настольная гульня. 3. Хлеб у народаў Закаўказзя. 4. Аптычнае прыстасаванне для агляду абстаноўкі па-за дзвярыма кватэры. 5. Французскі пісьменнік XVIII стагоддзя. 6. Чарада авечак. 7. Рэзкі, круты пералом у ходзе хваробы. 8. Вадаспад з уступамі. 15. Лоўкі, беспрынцыповы чалавек (разм.). 16. У праваслаўным календары: свята пасля Вялікадня. 17. Травяністая расліна, з кветак якой гатуюць лекавы настой. 18. Грашовае ўзнагароджанне за творчую працу. 19. Кніга, у якой сабраны разам творы або дакументы. 20. Склад зброі, вайсковай амуніцыі. 21. Цыркавы гімнаст. 22. Сістэма праваднікоў у электрычнай машыне. 24. Выхадзец са Скандынавіі, член узброенага атрада для грабяжу або гандлю (стар.). 32. Ядомы лясны грыб. 33. Каўпак на лямпу. 35. Бацькаўшчына. 36. Характар надвор'я, уласцівы для той або іншай мясцовасці. 37. Зборнік геаграфічных карт. 38. Народны духавы музычны інструмент. 39. Даход ад капіталу, маёмасці, зямлі і г. д., не звязаны з прадпрымальніцкай дзейнасцю. 40. Невялікі магазін.



*г. Мінск.* **Склала Наталля ЖУРАЎСКАЯ.**

## КРЫПТАГРАМА

Карыстаючыся ключавымі словамі, прачытайце ў клетках малюнка народную прымаўку. Замест аднолькавых лікаў падстаўце адпаведныя ім аднолькавыя літары.

**а)** 1-2-3-4-5 — вялікая рыбалоўная сетка, **б)** 6-7-1-8 — усходы азімых, **в)** 9-4-10-11 — прамысловы звярок, грызун, **г)** 12-1-13-3-14 — летняя сельскагаспадарчая работа, **д)** 15-4-16-17-18 — раённы цэнтр у Гродзенскай вобласці.



**Склаў Уладзімір АБАБУРКА.**
*Клецкі раён.*

### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 23 СТУДЗЕНЯ 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| **Мінск (0-17)** | | | | | | | |
| Абсалютбанк | 41600 | 42000 | 22800 | 23300 | 6900 | 6980 | 636-080 |
| Белаграпрамбанк | 39500 | | 21500 | | 6500 | | 285-716 |
| Беларускі біржавы банк* | 41200 | 42000 | 22200 | 23200 | 6700 | 7000 | 685-523 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 31390.00 | | 17533.37 | | 5190.00 | | Курс на 24.01.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 6.0200 | | 3.3418 | | 10000 BLR - 1.3996 | | |
| пазабіржавы міжбанкаўскі курс | 42920 | 42980 | 23944 | 23984 | 7095 | 7106 | |

*Каціруецца ўкраінская грыўня

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваецца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галоўных упраўленняў неганддёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

## ПРАВЕРЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, АДКАЗЫ

**Кругавая крыжаванка (17 студзеня). Ад лічбы ўправа:** 1. Фамін. 2. «Манас». 3. Сурус. 4. Табар. 5. Тэрор. 6. Ратан. 7. Тамін. 8. Кулік. 9. Гапак. 10. Тэзіс. 11. Раман. 12. Колас. 13. Карал. 14. Палік. 15. Коган. 16. «Гапон». 17. Талер. 18. Ракаў. 19. Сазан. 20. Барон. 21. Булат. 22. Тасос. 23. Тавар. 24. Хакас. 25. Гудон. 26. Лагін. 27. Расін. 28. Локан. 29. Мезон. 30. Панас. **Ад лічбы ўлева:** 1. Фазан. 2. «Манон». 3. Саман. 4. Туніс. 5. Таран. 6. Рэбус. 7. Тарас. 8. Катор. 9. Гумар. 10. Талін. 11. Рэпін. 12. Казак. 13. Комік. 14. Палас. 15. Каран. 16. Голас. 17. Тагіл. 18. Рапак. 19. Салон. 20. Бакен. 21. Базар. 22. Тураў. 23. Талон. 24. Хасан. 25. Гавот. 26. Лукас. 27. Радар. 28. Лагос. 29. Мосін. 30. Пекін.

**Галаваломка (17 студзеня).** Ключыкам да яе з'яўляецца ламаная лінія, якая паказвае напрамак руху для паслядоўнага чытання літар. Прымаўка такая: «Чыста не там, дзе прыбіраюць, а там, дзе не насмечваюць».

**Крыптаграма (17 студзеня).** Ключавыя словы ў ёй: гільдыя, збожжа, бут, лейцы. Прымаўка была зашыфравана такая: «Дзе блага ляжыць, туды і злодзей глядзіць».

**Якая пара лішняя? (17 студзеня).** Лішняя — чацвёртая пара. Ва ўсіх астатніх верхні і ніжні кругі — люстэркавае адлюстраванне адзін аднаго, а ў чацвёртай пары гэта правіла не выконваецца.

**Крыжаванка «1998» (10 студзеня). Па гарызанталях:** 3. «Крок». 5. Бар. 6. Мука. 9. Аша. 10. Том. 11. Палігон. 12. Армада. 14. Абарот. 16. Ту. 18. Ара. 20. Ака. 22. Эра. 24. Ар. 25. Пік. 26. Бас. 27. Суд. 28. Дон. 29. Тур. 30. Аўт. 31. Рак. 32. Іда. 33. Лі. 34. Год. 36. Бра. 38. Тук. 40. Ра. 44. Каркас. 46. Фарфор. 47. Абкатка. 48. Уфа. 49. Шар. 50. Норд. 51. Ікс. 52. Арка. **Па вертыкалях:** 1. Камінак. 2. Баласт. 3. Карма. 4. Капа. 6. Мана. 7. Атара. 8. Аматар. 13. Дар. 15. Бур. 17. Упікі. 18. Акт. 19. Абрад. 20. Аса. 21. Астра. 22. Эдыкт. 23. Адлік. 24. Ангар. 33. Лакмус. 35. Ода. 37. Рэмарка. 39. Уса. 41. «Аўрора». 42. Аркан. 43. Афіша. 45. Санд. 46. Фаза.

*Анталогія беларускай песні*

# АДЧАПІСЯ АД МЯНЕ

**Два гады таму ў рэпертуары папулярнай эстраднай спявачкі Надзеі Мікуліч з'явілася арыгінальная песня «Адчапіся ад мяне». Яе назва — трапнае народнае выслоўе. У ім — і рашучасць дзяўчыны, і яе крыўда.**

Але ў паэтычным тэксце тоіцца спадзяванне на паразуменне. (Усё як у жыцці: выказаўшы набалелае, мо і адумаецца хлопец?!)

Песня ўзнікла ў 1995 годзе. Верш палкоўніка міліцыі Івана Басецкага «Адчапіся ад мяне», змешчаны з пазначэннем «песня» ў газеце Міністэрства ўнутраных спраў «На страже», прыцягнуў увагу маладога кампазітара з Магілёўшчыны Міколы Яцкова. Даволі хутка ён палажыў гэты паэтычны твор на музыку. Дарэчы, Мікола звярнуўся і да іншых вершаў Івана Басецкага — доктара юрыдычных навук, прафесара, заслужанага юрыста Рэспублікі Беларусь. Кампазітар запісаў песню на касету і даслаў яе спявачцы ў Мінск. У мінулым годзе на Беларускім радыё быў зроблены запіс песні «Адчапіся ад мяне». Аранжыроўку зрабіў Аляксандр Давыдзік, а дапамагалі Надзеі Мікуліч падпяваць прыпеў оперны саліст Рыгор Палішчук і музыкант Леанід Клумны.

**Міхась ШАВЫРКІН.**




Ты казаў, што блукаў,
Што каханне шукаў,
Пра мяне менавіта і марыў.
А сяброўцы маёй
Ты таксама шаптаў,
Што папаў у палон яе чараў.

**Прыпеў:**

*Адчапіся ад мяне,*
*Не шукай ты сустрэч,*
*Не пільнуй кожны вечар ля дома.*
*Па мінулай той вясне*
*Ты сумуеш, я — не,*
*І табе гэта добра вядома.*

Ты мой холад трываў,
Рукі мне цалаваў.
Ды дазналася я выпадкова,
Што суседцы маёй
Аб каханні казаў,
Падарыў ёй на шчасце падкову.
**Прыпеў.**
Ты спяваў, што знямеў,
Што нікога не меў,
Ды гучала фальшыва гітара,
Бо знаёмым казаў,
Што даўно зразумеў:
Для цябе я не лепшая пара.
**Прыпеў.**

# ІЛЬВЫ І ДЗЕВЫ ДАБ'ЮЦЦА ВЫДАТНЫХ ПОСПЕХАЎ НА ПРАЦЫ, А РАКАМ-КАМЕРСАНТАМ НЕ РЭКАМЕНДУЕЦЦА ПАВЫШАЦЬ ЦЭНЫ...

## УСХОДНІ ГАРАСКОП НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ

КАЗЯРОГУ трэба будзе правесці насычаны падзеямі тыдзень. Вучоба, заняткі спортам, культурныя мерапрыемствы з вашым абавязковым удзелам будуць змяняць адзін аднаго. Сябры выступяць спонсарамі паездкі за мяжу. Магчыма таксама турне па роднай краіне з мэтай набрацца вопыту і павысіць прафесіянальны ўзровень. Тыя, хто не захоча разлучацца з сям'ёй, атрымаюць асалоду ад хатняй утульнасці і зносінаў з блізкімі.

ВАДАЛЕЮ трэба выкарыстаць параду планет і ў пачатку тыдня больш увагі ўдзяляць руціннай рабоце. Энтузіязм вас не пакіне, што і дасць магчымасць датэрмінова справіцца з важным заданнем. У бізнесменаў акажацца дастаткова часу, каб з усіх бакоў абдумаць новы дзелавы праект, звязаны з інвестыцыямі. Моладзь прадоўжыць заняткі спортам, а цудоўныя дамы шмат часу правядуць у майстроў прычосак, касметолагаў і ў клубах здароўя.

РЫБЫ набудуць большую ўпэўненасць, неабходную для пачатку новага дзелавога праекта. У канцы тыдня ў вас знікнуць апошнія сумненні, і трэба будзе пачынаць ажыццяўляць задуманае. Больш працуйце з падначаленымі, якія стануць вашымі вернымі памочнікамі ў справах. Дзяржслужачыя ў пятніцу канчаткова ўрэгулююць адносіны з начальствам.

АВЕНЫ павінны неадкладна прыняць дзелавую прапанову, якая абяцае хуткія і добрыя дывідэнды. Каму выпала адпраўляцца на работу ў іншы горад, тым не варта траціць час. Цяпер планеты спрыяюць любой вашай дзейнасці за межамі дома. Удалай будзе таксама купля нерухомасці. У канцы тыдня да вас нечакана з'явяцца блізкія сваякі з далёкага замежжа, прыезд якіх не перашкодзіць паяўленню перспектыў для рамантычных прыгод.

ЦЯЛЬЦОЎ чакае вельмі насычаны працай і клопатамі тыдзень. Магчыма, што з-за наплыву спраў давядзецца памяняць графік работы. Вам трэба будзе набраць каманду аднадумцаў і добрых памочнікаў, што дасць магчымасць дабіцца нядрэнных вынікаў у бізнесе. Удала складуцца справы ў дам, якія заняты ў гасцінічным бізнесе і ў сферы рэкламы. Тыя, хто знаходзіцца цяпер далёка ад дому, хутка сустрэнуцца са сваімі блізкімі.

БЛІЗНЯТЫ на гэтым тыдні заключаць важны кантракт. Тэатральныя дзеячы акажуцца ў цэнтры ўсеагульнай увагі і атрымаюць узнагароду за бескарыслівае служэнне Мельпамене. На долю акцёраў выпадзе асабліва вялікі поспех. Удача чакае і тых, каго пераводзяць на вышэйстаячую пасаду, але на перыферыі. Ваш сумесны з партнёрамі бізнес будзе працвітаць, а судовая справа завершыцца на вашу карысць.

РАК павінен сканцэнтраваць усю ўвагу на падпісанні новага прэстыжнага кантракта. Пазбягайце непатрэбнага хвалявання, спрэчак і імпульсіўных дзеянняў, якія толькі перашкодзяць выкананню задумы. Камерсантам не варта ўзвінчваць цэны, інакш тавар увогуле акажацца нерэалізаваным. Атрыманыя дывідэнды неабходна адразу ж інвесціраваць у расшырэнне бізнесу. Цікавыя перамены да лепшага настануць у вашым асабістым жыцці.

ІЛЬВЫ даб'юцца значнага прагрэсу ў рабоце, прадоўжаць хуткае прасоўванне ў кар'еры. Нядаўна заключаны кантракт прынясе выдатныя вынікі. Добрыя дывідэнды атрымаеце ад інвестыцый у каштоўныя паперы. Прыбаўка да зарплаты чакае маладых журналістаў. Важнае пагадненне падпішуць бізнесмены, якія гандлююць сталлю і спартыўнымі таварамі. Нягледзячы на загружанасць работай, у вас застанецца шмат часу для любімых захапленняў.

ДЗЕВА даб'ецца выдатных вынікаў у дзелавой дзейнасці. Гэты тыдзень акажацца багатым на дасягненні ў бізнесе, развіццю якога паслужыць намячаемая замежная паездка. Барацьба за выгадны кантракт закончыцца вашай поўнай перамогай. Рэарганізацыя ў вашай кампаніі прадугледжвае паяўленне дадатковых абавязкаў. Дыпламатаў чакае работа на важнай пасадзе за мяжой. Да творчасці артыстаў і мастакоў праявіць цікавасць важная персона, якая імкнецца выбіцца ў мецэнаты.

ШАЛІ адчуюць моцную стомленасць ад работы і іншых спраў. Але, нягледзячы на гэта, вам лепш не забываць аб магчымых перспектывах. Калі не выкарыстаць іх цяпер, то потым будзе позна. Дзяржслужачым выпадзе невялікая перадышка перад новым сур'ёзным заданнем. Камерсантам і гасцінічным работнікам шырока ўсміхнецца ўдача. Яны атрымаюць добрыя дзелавыя прапановы, якія ў хуткім часе абернуцца вялікімі дывідэндамі.

СКАРПІЁНАМ планеты раяць перагледзець адносіны з дзелавымі партнёрамі. Новыя кантакты ў сферы бізнесу, магчыма, дадуць лепшы вынік, чым ранейшыя. Простым служачым трэба будзе больш старанна выконваць свае абавязкі, інакш на сваёй пасадзе ім не ўтрымацца. Усё шчасліва складзецца для тых, хто нядаўна ўступіў у шлюб. А тыя, хто ўдосталь нацешыўся сямейным жыццём, могуць сутыкнуцца з паяўленнем праблем, якія ўзнікнуць з-за плётак вакол іх.

СТРАЛЬЦЫ будуць удзячныя свайму дзелавому партнёру, які праявіць ініцыятыву і прывядзе ваш агульны бізнес да поспеху. Добрыя перспектывы адкрыюцца перад тымі, хто шукае работу, дабіваецца павышэння па службе і не любіць сядзець склаўшы рукі. Дапамога прыйдзе ад добрых людзей. Маладыя выдатна правядуць уік-энд на курорце. Астатнім планеты раяць не забывацца на ўласнае здароўе і на гэтым тыдні заняцца ім сур'ёзна.

**Леанід КОТАЎ, кар. ІТАР—ТАСС,**
*Дэлі.*

*УСЁ ПРА ЎСЁ*

## ТЭХНАЛОГІЯ ЗДРАДЫ

Сямейныя здрады, аказваецца, назіраюцца не толькі ў чалавечым грамадстве, але і сярод жывёл і птушак. Возьмем, напрыклад, паласатых берасцянак. У гэтых птушак пары ўтвараюцца аднойчы і на ўсё жыццё. Але час ад часу берасцянка-самец раптам пачынае «бегаць налева», да сяброўкі суседа. Правёўшы тыдзень-другі ў такіх набегах, ён вяртаецца ў сям'ю.

— Мы выявілі нешта зусім новае ў галіне сексу, — расказвае біёлаг Цім Берклі, які ўжо не адзін год вывучае звычкі гэтых птушак. — Чым большы прамежак паміж спароўваннем у берасцянак, тым больш палкі каханак... Пры гэтым аматары паходаў «на бок» паводзяць сябе, як правіла, даволі абачліва. Спачатку яны выконваюць абавязкі мужа, і толькі калі ўпэўненыя, што сяброўка села выседжваць яйкі, адпраўляюцца спачатку на адлачынак, а затым на пошукі прыгод...

Наогул, усё як у людзей. Хіба што бойкі здараюцца радзей: заспеты знянацку закаханы, як правіла, паспявае ўцячы. У яго ж, акрамя ног, ёсць яшчэ і крылы...

**Падрыхтавала Вікторыя КЛЯНОВІК.**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмная — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by. http://www.zvyazda-daily.minsk.by.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 84.118. Індэкс 63850.
Зак. № 384.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12